

в.Удзела, Глыбоцкі р-н


в.Удзела, Глыбоцкі р-н


Па дарозе ў в.Мосар, Глыбоцкі р-н


г.Глыбокае

*Перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай па парафіях Мінска–Магілёўскай архідыяцэзіі, чэрвень–жнівень 1998г.*




г.Глыбокае


в.Парафіянава, Докшыцкі р-н

№8-9 (46-47) 1998

***...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе***
*(з аб`яўленьняў Маці Божай у Фаціме)*

# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА–МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ







*Будслаў, 2 ліпеня 1998г.*
*Урачыстасць, прысвечаная каранацыі абраза Маці Божай Будслаўскай.*











### *МАЛІТВА АБ ДАРАХ ДУХА СВЯТОГА*

*Дух Найсвяцейшы, Суцяшальнік, Які асвячаеш душы нашы! Згадзіся абдараваць мяне дарам мудрасці, каб асягнуў і палюбіў спрадвечную праўду і ніколі не аддаваў перавагі багаццям гэтага свету перад вечнымі.*

*Асвяці мяне дарам розуму, каб спасціг, наколькі дазваляе недасканаласць людская, абвешчаныя Табою праўды.*

*Адары ўменнем, каб пераканаўся я ў сваёй нязначнасці і вялікіх справах, Табою створаных. Каб усё адносіў да Бога паводле пачуццяў Сэрца Езуса і пагарджаў марнасцю гэтага свету.*

*Асвяці мяне дарам разважнасці, каб быў разважлівым пры небяспеках жыцця на зямлі і здзяйсняў волю Божую.*

*Дай мне дар мужнасці, каб перамагаў спакусы ворагаў і пераносіў магчымае пераследванне.*

*Дай мне дар пабожнасці, каб прывіў у сабе любоў да разважання ў малітве і ў тым, што адносіцца да службы Божай.*

*Дай мне дар боязі Божай, каб старанна ўхіляўся ад усяго, што магло б пакрыўдзіць Цябе, каб баяўся грэху больш, чым смерці, і гэта толькі з-за любові да Цябе.*

*Да тых усіх дароў, о Духу Святы, дай дар пакаяння, каб аплакваў грахі свае, і абдары духам пакуты, каб мог аддзякаваць Божай справядлівасці.*

*Напоўні,Духу Святы, сэрца маё Божай любоўю, ласкай і вытрымкай, каб жыў пахрысціянску і памёр смерцю,годнай Богу. Амэн.*






# ДАРЫ ДУХА СВЯТОГА

## *Дар розуму*

Шосты дар Духа Святога дазваляе душы ўзысці на шлях больш узнёслы за той, па якім яна ішла да гэтага часу. Першыя пяць дароў датычаць дзеяння. Чалавек можа дзейнічаць і ісці далей сваёю дарогаю з надзеяй, што дойдзе да мэты. Але дабрыня Духу Божага захоўвае для яго яшчэ іншыя праявы свае прыхільнасці. Бог пастанавіў, што чалавек ужо на гэтым свеце будзе радавацца прадчуваннем шчасця, падрыхтаванага для яго ў будучым жыцці. З гэтага часу перад ім будзе адкрыты шлях кантэмпляцыі (глыбокага сузірання), а Дух Божы прывядзе яго на гэты шлях з дапамогаю дару розуму...

Кантэмпляцыя — гэта стан, да якога, у пэўнай ступені, заклікана кожная душа, што шукае Бога. Гэта проста інтымная сувязь паміж Богам і душою, якая застанецца вернаю яму ў сваёй дзейнасці. Калі толькі душа не ставіць перашкодаў, то атрымлівае скарбы. Першы з іх — дар розуму, асвечаны Божым святлом. Святло гэтае раз'ясняе вочы душы, умацоўваючы яе і даючы большую магчымасць углядвацца ў Божыя справы. Тады рассейваецца шмат цёмных хмараў, якія сыходзілі са слабасці і няўражлівасці яшчэ не пасвечанай душы. Ва ўсім харастве аб'яўляецца вабнасць таямніцаў, якія дасюль мы толькі няясна прадчувалі. Гэта яшчэ не бачанне тварам у твар, якое належыць да жыцця вечнага, але ўжо й не толькі слабы агеньчык, які дасюль кіраваў нашымі крокамі. Душа напаўняецца яснасцю, што ўзбагачае веру, дае ўзрастанне надзеі і развівае любоў. Усё здаецца ёй новым, а калі азіраецца назад, ясна бачыць, што цяпер яна разумее праўду, якая ёсць заўсёды тая самая, непараўнальна больш поўна.

Падзеі, апісаныя ў Евангеллі, робяць на душу значна большае ўражанне. У словах Збаўцы яна адкрывае для сябе новы сэнс, якога дасюль не ведала. Лепей разумее мэту, якую Ён меў на ўвазе, калі ўстанаўляў сакрамэнты. Святая Літургія натхняе гэту душу сваімі годнымі выразамі і абрадамі з глыбокім значэннем. Яе прыцягвае чытанне пра жыццё святых і ніякія іх адчуванні і ўчынкі яе не здзіўляюць. (...) Душа адчувае духоўны рост, прабываючы з гэтымі прыяцелямі Бога. Калі яна знаходзіцца ў віры розных абавязкаў, то Божая паходня вядзе яе так, каб яна ўсе іх выканала. Яе паводзіны адпавядаюць самым розным дабрадзейнасцям, якія яна павінна практыкаваць. Ніколі ні адна з іх не развіваецца за кошт іншай, бо душа прагне гармоніі, якая павінна панаваць паміж імі. (...) Не раз сам Дух Божы навучае яе праз унутранае слова, пачутае ў душы, тлумачачы канкрэтную сітуацыю ў яе жыцці.

З гэтага часу душа бачыць свет і яго памылкі такімі, якімі яны ёсць. Яна ачышчаецца ад рэштак прывязанасці да іх. Тое, што сваёю веліччу і харастом абавязана толькі прыродзе, у яе вачах выглядае малым і мізэрным, бо Дух Святы адкрыў іх на веліч і хараство Божыя. Толькі адзін аспект надае вартасць знешняму свету, які прыцягвае яшчэ цялеснага чалавека: гэта тое, што бачнае стварэнне, якое носіць след Божага харастава, здольнае служыць хвале свайго Аўтара. Душа вучыцца кіраваць гэтым стварэннем з удзячнасцю, якая ўздымае яе да звышнатуральнасці. Разам з Валадаром-Прарокам праслаўляе Таго, хто адцiснуў след свайго харастава на шматмернасці быцця, якое павінна весці да Бога і якое так часта служыць згубе чалавека.

Дар розуму дае душы таксама пазнанне яе ўласнага шляху. Ён дазваляе зразумець, якія мудрыя і міласэрныя былі нябесныя замыслы, што не раз асвятлялі і вялі туды, куды яна не намервалася ісці. Душа бачыць: калі б яна самастойна кіравала сваім жыццём, то страціла б сваю мэту, да якой прывёў яе Бог, напачатку хаваючы ад яе намеры свае айцоўскай Мудрасці.







Цяпер душа шчаслівая, бо цешыцца спакоем, а сэрца не ў стане выказаць удзячнасці за тое, што Бог сам прывёў яе да мэты. Калі здарыцца так, што яна будзе паклікана даць параду альбо ўзяць кіраўніцтва па абавязку альбо з любові да бліжняга, ёй можна даверыцца, бо дар розуму асвятляе яе таксама ў адносінах да іншых, як і да яе самой. Аднак такая душа не напрошваецца чытаць лекцыі тым, хто яе не просіць. Калі яе запытаюць — адказвае, а яе адказы гэтаксама поўныя святла як тая паходня, якая яе асвячае.

Менавіта такі дар розуму сапраўднае асвячэнне хрысціянскай душы. Гэты дар захоўваецца дзякуючы пакоры, унармаванасці жаданняў і ўнутранай засяроджанасці. Паводзіны, якія вызначаюцца раскіданасцю, затрымліваюць яго развіццё і могуць нават загубіць яго.

У жыцці, поўным клопату і абавязкаў, у самым цэнтры неспакою, душа ўмее захаваць засяроджанасць.

Таму няхай будзе яна малая і простая ва ўласных вачах, а тады тое, што Бог схаваў ад ганарыстых і аб'явіў малым (пар. Лк 10, 21), будзе ёй паказана і ў ёй застанецца.

Няма ніякага сумнення, што гэты дар — агромністая дапамога для збаўлення і асвячэння душы. Значыць, мы павінны шчыра прасіць аб ім Духа Божага, перакананыя, што атрымаем яго, найперш дзякуючы ўзрушэнню нашага сэрца. Гэта праўда, што Божае святло, якое з'яўляецца прадметам гэтага дару, аб'яўляецца ў розуме; але выліваецца яно перадусім, дзякуючы намаганням волі, распалены агнём любові... Звернемся да Духа Святога і, паслугуючыся словамі Давіда, скажам: "Адкрый мае вочы, каб бачыў я цуды Закону Твайго! ... дай мне ўразуменне, каб жыць" (Пс 119, 18.144). Навучаныя Апосталам, выкладзем нашу просьбу яшчэ больш настойліва, карыстаючыся малітваю, якую ён скіраваў да Айца Нябеснага за вернікаў з Эфэзу. Тады ён прасіў для іх Духа мудрасці і аб'яўлення, дзякуючы якому пазнаецца Бог, а таксама прасіў прасветленых вачэй сэрца, якія адкрываюць прадмет нашай надзеі і багацце хвалебнай спадчыны, якую Бог склаў у сваіх святых (пар. Эф 1, 17-18).

*А.Праспэр Гуэрангэр OSB*
*Пераклад К.Л.*




Гэтая выява Маці Божай – асаблівая. Намаляваў яе і даслаў у нашу рэдакцыю вязень з Украіны.

*Паважаная рэдакцыя!*

*Сардэчна віншую вас са святам нарадзінаў Найсвяцейшай Марыі Панны.*

*Жадаю вам плённай працы, творчых поспехаў на Божай ніве.*

*Няхай ва ўсе часы Маці Божая дорыць вам шчодрасць Сваёй ласкі, любові і спакою.*

*З павагаю і любоўю*
*Ігар Кіслач*

# Мы – ТВАЕ ДЗЕЦІ



Вось і каранавалі Цябе, Маці Божая Будслаўская!

2 ліпеня 1998 г. у Будславе, пры агромністым зборы народу, у часе трыумфальнай урачыстасці было абвешчана брэве Святога Айца Яна Паўла II:

Найсвяцейшая Панна Марыя — вобраз Касцёла, ранішняя зорка адроджанага праз ласку роду чалавечага, прыклад і трывалая надзея для ўсіх, хто імкнецца да Нябеснага Валадарства Ерузалем, святло ўсходу. Таму на працягу стагоддзяў Касцёл няспынна вышпрошваў дапамогу Маці Божай, гучна праслаўляў Яе цноты.

Паколькі шаноўны наш брат кардынал Казімір Свёнтэк, арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі лістом ад 29 сакавіка, у якім змешчаны просьбы духавенства і вернікаў, выказвае пажаданне, каб ад нашага імя і нашым высокім аўтарытэтам шляхетная карона магла быць ускладзена на адораны ласкамі абраз Багародзіцы, які ў касцёле Маці Божай Унебаўзятай у мястэчку Будслаў карыстаецца глыбокаю пашанаю, хочам да гэтай пабожнай просьбы добразычліва аднесціся. Таму, беручы пад увагу ўсё тое, чым Кангрэгацыя Божага культу і сакрамэнтаў сілаю атрыманых ад нас паўнамоцтваў у гэтай справе валодае, моцаю нашае апостальскае ўлады дазваляем іерарху, які нас просіць, каб на вышэйзгаданы абраз ад нашага імя і нашаю ўладаю ён урачыста ўсклаў каштоўную карону. Маем моцную надзею, што марыйны культ сярод людзей паўплывае на ўзрастанне веры і хрысціянскага жыцця. Ніякія іншыя законы не могуць гэтаму перашкодзіць.

Дадзена ў Рыме, у святога Пятра, з пячаткаю Рыбака 7 чэрвеня 1995 года на семнаццатым годзе нашага пантыфікату.

*Кардынал Анджэла Садано, сакратар Стану.*

Надыходзіць урачысты момант: кардынал Казімір Свёнтэк прымацоўвае папскія кароны да Твайго абраза, Маці Божая Будслаўская, і абвяшчае, што малой базылікі ў Будславе надаецца тытул санктуарыя Марыі нацыянальнага значэння! Гэта азначае, што Ты, Маці Божая Будслаўская, з'яўляешся цяпер апякункай усёй Беларусі.

Сталася. Зрэшты, так яно і было. Бо калі б Ты, Маці Божая Будслаўская, не была нашай апякункай усе гэтыя гады, хіба ішлі б мы штогод з розных куточкаў Беларусі з песнямі ды малітвамі напрыканцы чэрвеня да падножжа Твайго алтара ў Будславе? Хіба хапіла б сілы ў пяцігадовай Веранікі прайсці 150 кіламетраў пілігрымскага шляху ажно ад сценаў старажытнага Полацка да самага Будслава? Калі б ты ўсе гэтыя гады не несла палёгкі і суцяшэння змучаным ды прыніжаным засіллем атэізму людзям, хіба яны ў тыя змрочныя гады шукалі б у Цябе паратунку? А было ж... Было, калі хтосьці, праехаўшы альбо прайшоўшы доўгі шлях, душыўся слязьмі крыўды, бо не мог пераступіць







парогу Тваёй святыні, на дзвярах якой вісеў цяжкі замок. Ды людзі не адступаліся, бо бясконца верылі ў Тваю, Маці, падтрымку, спагаду, дапамогу. Не могучы ўвайсці ў святыню, яны маліліся каля яе сценаў, а то і воддаль — у парку. У тым самым парку, вакол якога цяпер праходзяць урачыстыя працэсіі. А колькім людзям Ты вярнула фізічнае здароўе! Твая гаючая вада, па якую людзі ехалі за сотні і сотні кіламетраў, суняла не адзін боль, загаіла не адну рану, прынесла палёгку не





аднаму цяжкахвораму чалавеку.

Шмат гадоў, цэлыя доўгія стагоддзі людзі нашай зямлі клічуць Тваёй абароны, прыбягаюць пад Тваю апеку і знаходзяць чаканае суцяшэнне. Высокую каштоўную карону Ты заслужыла, Маці Божая Будслаўская, сваёй шматгадовай апекай над нашым збалелым краем. Таму такія зразумелыя воплескі, што ўсчаліся на пляцы перад Тваёй святыняй пасля таго, як папскія кароны ўвянчалі Твой святы абраз. Зразу-










мелыя шчырыя слёзы радасці на вачах многіх і многіх вернікаў, што прайшлі доўгія пілігрымскія шляхі-дарогі, праехалі шмат кіламетраў, каб удзельнічаць у гэтай вялікай гістарычнай падзеі. І якія ж патрэбныя былі словы ўдзячнасці і абяцання быць годнымі дзецьмі сваёй Нябеснай Маці, што прагучалі з вуснаў яго Эмінэнцыі, кардынала Казіміра Свёнтка.

— Маці Божая Будслаўская! Наша Пані і Каралева! Мы, Твае падданыя, пакорна схіляючы перад Табою галовы, абяцаем Табе, што заўсёды і ўсюды будзем вернымі Богу, Сыну Твайму, нашаму Збавіцелю, вернымі Табе і Касцёлу! З бязмежным даверам аддаем Табе ў апеку саміх сябе, нашыя сем'і, нашы парафіі, дыяцэзіі, увесь Касцёл на Беларусі. Аддаем Табе ў апеку нашых дзяцей, моладзь, дарослых, а асабліва хворых, церпячых, слабых, адзінокіх, пакінутых, сіротаў і ўсіх, каму патрэбна дапамога, падтрымка і абарона. Апякунка наша! Каралева наша! Дапамагай нам! Кіруй намі! Вазьмі нас пад сваю апеку.

Нізка схіліўшы галовы, мы просім у Маці Божай Будслаўскай апекі над намі. Але кожны, хто прыязджае альбо прыходзіць 2 ліпеня ў Будслаў, разумее і тое, што клапатлівага догляду патрабуе і сама святыня. Менавіта дзеля гэтага яна перададзена яго Эмінэнцыяй кардыналам Казімірам Свёнткам пад апеку айцоў бернардынаў, якія пасля доўгага перапынку зноў вярнуліся ў Будслаў, аднавілі тут свой законны дом і са згоды кардынала ўзяліся апекавацца Будслаўскай святыняй. Таму гвардыяну гэтага законнага дома нададзены тытул кусташа санктуарыя Марыі ў Будславе, які ў сваёй клятве абяцаў дбаць аб Яе святыні і пашыраць культ Маці Божай Будслаўскай сярод людзей нашай зямлі.

...Вось і каранаваная Ты, Маці Божая Будслаўская! Цябе, якую мы звыкліся называць Матачкай, цяпер называюць Каралевай Беларусі. Але ж матчына сэрца заўсёды застаецца матчыным, якія б ганаровыя тытулы яму не надавалі. І яно заўсёды будзе любіць сваіх дзяцей: шчаслівых і няшчасных, бедных і багатых, гаротных і вясёлых. Мы ўсе застаемся навечна Тваімі дзецьмі, Маці Божая Будслаўская. Дык жа ахоўвай і аберагай нас як сваіх дзяцей. І няхай нашыя сэрцы заўсёды будуць адданыя Табе, нашай Нябеснай апякунцы і Маці!

***Ірына Жарнасек***

На здымках А.Клешчука і айцоў-салезіянаў – урачыстасць у Будславе.










# ХРЫСЦІЯНСКАЕ СВЯТКАВАННЕ

**2184**

Бог “адпачыў на сёмы дзень пасля ўсяе свае працы, якую рабіў” (пар. Быц 2, 2). Чалавечае жыццё таксама складаецца з працы і адпачынку. Устанаўленне дня Панскага спрычыняецца да таго, каб усе карысталіся дастатковым адпачынкам і вольным часам, які маглі б прысвяціць сямейнаму, культурнаму, грамадскаму і рэлігійнаму жыццю.

**2186**

Хрысціяне, якія маюць вольны час, павінны памятаць пра сваіх братоў, што маюць тыя самыя патрэбы і тыя самыя правы, але якія не могуць адпачываць па прычыне ўбоства і бядоты. У хрысціянскай пабожнасці нядзеля традыцыйна прысвечана добрым учынкам і пакорным паслугам людзям хворым, калекам і старэйшым. Хрысціяне павінны таксама святкаваць нядзелю, аддаючы сваёй сям'і і блізкім час і клопат, якіх не хапае ў астатнія дні тыдня. Нядзеля — гэта час рэфлексіі, чытання і медытацыі, якія спрыяюць узрастанню ўнутранага і хрысціянскага жыцця.

**2187**

Святкаванне нядзелі і святочных дзён вымагае супольнага высілку. Кожны хрысціянін павінен унікаць непатрэбнага навязвання іншым таго, што перашкодзіла б ім захоўваць дзень Панскі. Калі звычкі (спорт, забавы і г.д.) і грамадскія абавязкі вымагаюць ад некаторых працы ў нядзелю, яны павінны адчуваць адказнасць за тое, каб забяспечыць сабе дастаткова вольнага часу. Вернікі павінны ўнікаць злоўжыванняў і насілля, якія часам могуць выклікаць масавыя забавы. Нягледзячы на эканамічныя патрэбы, грамадскія ўлады павінны дбаць аб забеспячэнні грамадзянам часу, прызначанага на адпачынак і ўшанаванне Бога. Кіраўнікі прадпрыемстваў маюць аналагічныя абавязкі ў адносінах да сваіх рабочых і служачых.

***Кс. Войцех Барткoвіч***

## “ІДЗІЦЕ І АДПАЧНІЦЕ КРЫХУ”

Лянiва плывуць думкі ў летнім сонцы. Аднак, можа, трэба, нават крыху лянуючыся, падумаць пра тое, адкуль гэта лянота ўзялася і чаму яна павінна служыць.

“Адпачынак” існуе дзеля таго, каб “адпачыць”, — сказаў калісьці Норвід. Гэта вельмі цікава. Аказваецца, вакацыі існуюць зусім не дзеля таго, каб нічога не рабіць. Наадварот, каб пачацца наноў, часам трэба цяжка папрацаваць. Уся розніца паміж паўсядзённасцю і часам вакацыяў заключаецца ў тым, што на вакацыях трэба працаваць над нечым іншым, чым звычайна. Гэта зусім не проста. Большасць з нас можа сабе дазволіць якія-кольвечы вакацыі, але не ўсе мы ўмеем адпачываць. Часам пад канец вакацый альбо напрыканцы выхаднога дня, мы пачуваемся больш разбітымі, чым напачатку...

Уменне арганізаваць сабе час святкавання і адпачынку — адна з рысаў чалавечнасці, бо яна адрознівае нас ад звяроў, для якіх усе дні аднолькавыя. Звяры не маюць нядзелі, не арганізоўваюць сабе вакацыяў... І калі ў сучасным свеце назіраецца страта ўмення святкаваць, то гэта праява (прабачце за вострае слова) азвярэння чалавека.

Адпачынак — абавязак таксама і для тых, хто мае мноства абавязкаў. Апосталы павінны былі ўвесь свет здабыць для Хрыста, але Ён казаў ім часам: “Ідзіце і адпачніце крыху”. Трэба гэта настойліва паўтараць тым, хто насмерць запрацоўваецца, бо хвалы Божай не прыбывае з-за таго, што чалавек не шануе жыцця, якое атрымаў ад Бога. Мудра сказаў калісьці адзін з айцоў Касцёла: *Gloria Dei homo vivens* — “Хвалою Бога з'яўляецца чалавек, які **жыве**”... А каб быць тым, хто “жыве ва ўсёй паўнаце”, а не толькі тым, хто “ледзь жыве”, трэба аднаўляцца. А аднаўляцца — гэта значыць адраджацца (зразумела, гаворка ідзе пра адраджэнне цялеснае і духоўнае). Вакацыі, у поўным значэнні слова, — гэта і рэкалекцыі, і адпачынак (каб ажывіць цела). А, можа, магчыма паяднаць адно з другім?

І яшчэ штосьці для тых, каму сумна ў часе вакацый. Паводле Катэхізісу, вольны час мы павінны прысвяціць чатыром справам: жыццю сямейнаму, грамадскаму, культурнаму і рэлігійнаму. У каго з гэтым усё нармальна, няхай сабе спакойна спіць пад грушаю. Але астатнія... Нягледзячы на летняе сонца, няхай не лянуюцца. Бо не час на ляноту, калі прыйшлі вакацыі.

*Różaniec 7/8 1997 г.*

***Пераклад К. Л.***



**Кс. Эдвард СТАНЕК**

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## *ЧАЦВЁРТАЯ ЗАПАВЕДЗЬ*
## Шануй бацьку

Рэлігійнае жыццё грунтуецца на натуральным падмурку. Ахоўнікам жа гэтага падмурку з'яўляецца Дэкалог. Сёння звернем увагу на істотную каштоўнасць, якую ахоўвае запаведзь "Шануй бацьку твайго і маці тваю". Захаванне гэтай запаведзі мае надзвычай важнае значэнне ў фармаванні хрысціянскага разумення Бога. Бо датычыць яно фармавання адпаведнага падыходу дзіцяці да бацькі і бацькі да дзіцяці.

Чалавек, які атуляе павагаю свайго бацьку і, ідучы праз жыццё, адорвае яго сапраўднаю любоўю, лёгка адкрые, кім ёсць Бог і якімі павінны быць ягоныя адносіны да Яго. Таму што Бог, каб аб'явіць сваю таямніцу, скарыстаўся паняццем Айца, а значыць тым, што для людзей найбольш вядомае. Кожны з нас з'яўляецца дзіцем. Кожны мае бацьку — жывога, памерлага, любячага, абыякавага, — але кожны мае. Няма чалавека, які б не меў бацькі. І кожны з нас ведае, кім павінен быць сапраўдны бацька. Нават, калі ён не ўзняўся да вышыні свайго прызначэння і з'яўляецца дрэнным бацькам (п'яніцам, скандалістам), калі нават кінуў маці і нас, то сэрца нам падказвае, якім ён павінен быць. Бо ў сэрцы мы носім ягоны вобраз. Бог, жадаючы трапіць да нас, прамовіў менавіта да таго, схаванага на дне сэрца, вобразу. Ён аб'явіўся нам як Айцец і пры тым як найлепшы і адзіны Айцец. А каб таямніца Яго айцоўскай любові была намі добра зразумета, Ён аб'явіў і спаслаў нам свайго Сына, які, жывучы і церпячы з намі, паказаў, як Айцец нас любіць і як мы павінны Яго любіць.

Хрыстус папярэджваў: "Нікога на зямлі не называйце айцом, бо адзін ёсць Айцец ваш, Той, у небе". Ён хацеў такім чынам нагадаць: тое, што нам сэрца гаворыць пра добрага бацьку, адносіцца перш за ўсё да Бога. Самае цудоўнае слова, якое кажа, кім ёсць Бог — гэта слова "Айцец".

У гэтым святле мы можам спасцігнуць важнасць чацвёртай запаведзі Дэкалогу. Яна датычыць фармавання адпаведных адносінаў да зямнога айца, якія разам з тым з'яўляюцца адносінамі да Айца нябеснага. Чалавек, які па той ці іншай прычыне не любіць і не шануе свайго зямнога бацькі, страціў мост, што вядзе да спаткання з Айцом нябесным. Гэта вялікае няшчасце для чалавека.

Знішчаная павага і здратаваная любоў да бацькі робяць з чалавека калеку. Духовая рана, якая тады ўтвараецца, належыць да самых глыбокіх і самых цяжкіх для лячэння ранаў сэрца. Яна можа напоўніць горыччу ўсё жыццё чалавека. Часта бывае, што паранены такім чынам чалавек, не адкрые багацця, якое ёсць у самай прыгожай малітве "Ойча наш" і ніколі ў жыцці не здолее заўважыць любові, якою яго адорвае Бог.

"Шануй бацьку і маці сваю". Гэта запаведзь мае рэлігійны характар. Яе занядбанне непазбежна вядзе да трагедыі ў рэлігійным жыцці. Канфлікт з бацькамі заўсёды накладае адбітак на жыццё малітвы, на веру, а часта вядзе нават да поўнага разрыву з Богам. Таму





таксама, жадаючы перамагчы многія сучасныя рэлігійныя крызісы, трэба пачынаць з аздараўлення адносінаў паміж бацькамі і дзіцем, паміж сынам, дачкою і бацькам, маткаю. Без адпаведных адносінаў да бацькоў не можа быць гаворкі пра сапраўднае рэлігійнае жыццё.

Тут можна зразумець тую вялізную адказнасць, якую нясе бацька ў дачыненні да Бога. Ён павінен быць Яго вобразам. Кожнага бацьку, які даў жыццё дзіцяці, Бог будзе судзіць перадусім з таго, ці быў ён добрым бацькам, ці праз тое аблегчыў дзецям узвядзенне мосту, па якім можна прайсці на сустрэчу з Айцом нябесным. Гэта яго найважнейшае і найбольш адказнае заданне.

Бяда бацьку, які сваімі паводзінамі давёў дзіця да нянавісці альбо да ігнаравання сябе. Бо ўласнымі паводзінамі ён знішчыў мост, які вёў яго да сустрэчы з Богам. Бяда такому бацьку, калі ён стане перад Стварыцелем, каб адказаць за свае паводзіны. Праблема гэта актуальная й сёння. Трагедыя нашага пакалення ў падзенні аўтарытэту бацькоў, асабліва бацькі. Захоплены справамі, бываючы цэлымі днямі далёка ад дому, бацька ўсё часцей становіцца госцем для сваіх дзяцей. Ён не мае для іх часу, не кажучы ўжо пра выпадкі, калі сваімі ўчынкамі ў адносінах да іх і маці замест павагі і любові выклікае крыўду (п'янства, грубасць, адыход з сям'і...). Як у такой сітуацыі тлумачыць дзіцяці, што Бог добры, як Айцец? Яно таго не зразумее. "Шануй бацьку і маці" — кароткі і просты заклік, які даходзіць да кожнага чалавека. Калі гэты заклік будзе захаваны, то стане ён самым кароткім шляхам, што вядзе нас проста ў абдымкі любячага Айца нябеснага.

Зробім сёння рахунак сумлення з нашых адносінаў да бацькі. Падзякуйма Богу за ўсё тое, што праз рукі і сэрца нашага бацькі мы атрымалі. Добры бацька — гэта вялікі скарб. Ці заўсёды былі мы ў адносінах да яго добрымі дзецьмі?

А ты, бацька, падумай сёння не толькі пра тое, якім быў і ёсць сынам, але і якім з'яўляешся бацькам. Ці радуюцца твае дзеці ад таго, што маюць добрага, любячага бацьку? Ці не маюць яны на цябе крыўды?

### БЛАГАСЛАВЕННЕ ДЛЯ ДОБРАГА ДЗІЦЯЦІ

"Шануй бацьку і маці сваю і будзеш доўга жыць і добра табе будзе паводзіцца на зямлі". Захаванне гэтай запаведзі з практычнага пункту погляду складае, уласна кажучы, умову развіцця не толькі рэлігійнага жыцця, але і маральнага. Яднае яно першую частку Дэкалогу, што датычыць рэлігійных каштоўнасцяў, г.зн. тры першыя запаведзі, з запаведзямі ад пятай да дзесятай, якія стаяць на варце маральных каштоўнасцяў.

Адбываецца так таму, што бацькі ў першы перыяд жыцця дзіцяці з'яўляюцца найбольшым аўтарытэтам як у сферы рэлігійнай, так і маральнай. Абапіраючыся на адносіны да бацькі і маці, дзіця фармуе сваё паняцце Бога, бо яно Яго не ведае. Толькі тады, калі пачынае жыць розумам, пачынае таксама адкрываць існаванне Бога і патрэбу з Ім лічыцца. Аднак пакуль гэта наступіць, першыя гады дзіця абапіраецца цалкам на адносіны да бацькоў, і будучае паняцце Бога ў вялікай ступені залежыць ад таго, якога бацьку і якую маці меў гэты чалавек. Разам з тым першыя кантакты з людзьмі фармуюцца на адносінах перадусім да маці. Сёння вядома, што дзіця ўдзельнічае ў перажываннях маці, калі фармуецца ў яе ўлонні. Затым, на працягу некалькіх гадоў, маці і бацька, схіленыя над дзіцем, фармуюць яго будучыя адносіны да людзей.

Таму надзвычай важна, каб адносіны дзіцяці да бацькоў былі па магчымасці блізкімі да ідэалу. Вядома, на практыцы дасягнуць гэтага вельмі цяжка. Лёгка быць бацькам, лёгка быць маці, але цяжка быць добрым бацькам і добраю маці. Тым не менш гэты высілак, які трэба зрабіць, каб паказаць дзіцяці найбольшыя рэлігійныя і маральныя каштоўнасці, з'яўляецца заданнем кожнага, хто вырашае быць бацькам альбо маці.

Часцей за ўсё лічыцца, што ў гэтай запаведзі Бог клапоціцца пра дабро бацькі і пра дабро маці. Нічога падобнага. Бог клапоціцца пра дабро кожнага чалавека. Гэта запаведзь дадзена з клопатам пра наша шчасце. Калі хтосьці атуліў клопатам і пашанаю бацькоў, а значыць, з'яўляецца добрым сынам, то ў такім

выпадку з'яўляецца ён і добрым чалавекам, а толькі добры чалавек можа быць шчаслівым. Таму таксама Бог, прыпамінаючы гэту галоўную ўмову, толькі да аднае гэтае запаведзі дадае: "і будзеш доўга жыць і добра табе будзе паводзіцца на зямлі". Добры чалавек можа разлічваць на шчаслівае жыццё таксама і на зямлі.

Зразумела, мы павінны лічыцца з тым, што не заўсёды сустракаем бацькоў, якія рэалізуюць Божы ідэал добрай маці і добрага бацькі. Дзецям у такой сям'і цяжэй адкрыць вялікія рэлігійныя і маральныя каштоўнасці. Аднак нельга гэтага абагульняць. Часам у сям'і, дзе ані бацька, ані маці не рэалізуюць нават на пяць працэнтаў ідэалу добрага бацькі і добрай маці, вырастае цудоўнае дзіця. Бывае і наадварот. Бацька і маці — выдатныя людзі, а дзіця — як бы ўвогуле не прайшло праз іх рукі і сэрца. Тым не менш, практыка сведчыць, што ўплыў бацькоў на дзіця вельмі вялікі. Калі хтосьці не вынес з бацькоўскай хаты прыкладу добрага бацькі і добрай маці, то праз дваццаць гадоў, калі павінен будзе ўзяць на сябе сямейныя абавязкі, цяжка яму будзе стаць добрым бацькам ці добраю маці. На самой справе ў чалавеку існуе пэўны ідэал добрага бацькі, добрай маці, але вядома, што гэты ідэал не магчыма рэалізаваць на сто працэнтаў. Наступае звыклая шэрая рэчаіснасць і трэба з ёю супастаўляць ідэал. Для гэтага супастаўлення патрэбны прыклад. Калі яго не будзе, спробы маладога чалавека не ўдаюцца, і мы маем наступнае пакаленне няшчасных людзей. Зноў з'явіцца чалавек, які не дацягвае да таго, каб назваць яго добрым бацькам, добраю маці.

Падзякуйма сёння нашым бацькам за тое, што далі нам жыццё, што нас выхавалі. Калі хтосьці меў добрую маці, добрага бацьку, то ён самы багаты чалавек на зямлі. Няма большага багацця, чым мець добрых бацькоў. Гэта вялікі дар Бога. Трэба гэта ўбачыць і трэба за тое часта дзякаваць Богу, незалежна ад таго, ці чалавек мае дваццаць гадоў ці восемдзесят пяць. Гэта багацце вечнае.

Падзякуйма Богу таксама за тое, што такім простым чынам у чацвёртай запаведзі ўказвае нам таямніцу шчасця чалавека. Быць добрым дзіцем — азначае быць добрым чалавекам.

Калі б гэта адна адзіная запаведзь была цалкам рэалізавана, то мы нечакана апынуліся б у шчаслівай сям'і. Уявім сабе, што на вуліцы, на працы, у кожны момант мы сустракаем добрага бацьку, добрую маці, добрага сына, добрую дачку. Такім чынам кожны раз мы маем дачыненне з добрым чалавекам. Таму таксама ўсе ўдалыя рэформы ў грамадстве заўсёды распачынаюцца з аздараўлення гэтых самых важных адносінаў, якія ахоўвае чацвёртая запаведзь: "Шануй бацьку і маці сваю".

### АБАВЯЗКІ ДЗЯЦЕЙ ПЕРАД БАЦЬКАМІ

Вельмі часта мы падыходзім да чацвёртай запаведзі з пункту погляду малых дзяцей, зводзячы ўсё да паслухмянасці дзіцяці бацьку і маці. Гэта вялікае непаразуменне. Запаведзь абавязвае дарослага, сталага чалавека, а перыяд маленства, у які паслухмянасць выступае на першы план — гэта толькі фрагмент нашага жыцця. Сталы чалавек часта не можа быць паслухмяным бацькам.

У гэтай запаведзі гаворка ідзе пра пашану, пра павагу. Бацькі тут, на зямлі, — гэта адзін з самых вялікіх скарбаў, адна з найбольшых каштоўнасцяў, якую чалавек мае, і так, як кожную каштоўнасць, павінен атуліць іх пашанаю...

Я хацеў бы звярнуць увагу на два моманты. Нават пашана да святара, біскупа альбо папы павінна быць цалкам згарманізавана і падпарадкавана пашане да бацькоў. Мы сёння даволі часта сустракаем людзей (і гэта непакоіць), якія адорваюць вялікаю пашанаю папу і разам з тым здольны балюча пакрыўдзіць сваіх бацькоў. Пра сапраўдную павагу да папы можна казаць толькі тады, калі чалавек захоўвае Божыя запаведзі, а значыць, атуляе сапраўднаю пашанаю бацьку і маці. Я кажу пра гэта, бо такім людзям здаецца, што яны — вельмі добрыя каталікі, а тым часам у іх знішчаны сам падмурак рэлігійнага і маральнага жыцця. Больш за тое, хто чытае Евангелле, той заўважыць, што Хрыстус перасцерагае, каб хтосьці не спрабаваў ушаноўваць Бога за кошт бацькоў. Евангелісты дакладна занатавалі размову Хрыста з фарысеямі, якія лічылі, быццам тое,





што належыць бацькам, можна скласці як ахвяру Богу. Хрыстус выразна нагадвае, што нельга ўшаноўваць Бога за кошт пашаны да бацькоў. Такая ахвяра нямілая Богу.

Часцей за ўсё сустракаемся з бракам пашаны да бацькоў альбо праз ігнараванне альбо праз сорам. Хтосьці саромеецца бацькоў з-за іх нізкага паходжання, неадукаванасці, альбо з-за тых ці іншых слабасцяў. Такі сорам заўсёды ўказвае на нікчэмнасць дзіцяці. Гэта мае бацькі і менавіта таму, што яны — мае бацькі, яны з'яўляюцца для мяне скарбам.

Пашана да бацькоў была, ёсць і будзе паказчыкам велічы чалавека. Сустракаемся часта і з крыўдаю, нанесенаю бацькам, бацьку ці маці. Гэта вельмі сур'ёзны грэх. Калі пашану да бацькоў Бог узнагароджвае благаслаўненнем, то несумненна, што крыўду пакарае праклёнам.

Калі хтосьці спрабуе будаваць сваё ўласнае шчасце, нішчачы шчасце бацькоў, то чакае яго бяда. Не можа быць шчаслівым той, на кім ляжаць слёзы пакрыўджанай маці альбо пакрыўджанага бацькі.

Разам з клопатам і павагаю да бацькоў хрысціянін павінен мець асаблівую любоў да бацькі і маці. Гэтую любоў ён праяўляе ў клопаце пра іх шчасце. Бацькі маюць права для шчасця і гонару за сына альбо дачку. Дзіця павінна прыносіць бацькам гонар. Яно — плён іхняга жыцця. Важна клапаціцца пра тое, каб яны маглі перажываць радасць, што плод іхняга жыцця ўдалы. Напаўненне бацькоўскага сэрца радасцю — гэта абавязак, які вынікае з чацвёртай запаведзі.

У гэтай сітуацыі, з хрысціянскага пункту погляду, змяшчэнне бацькоў у дом састарэлых — апошняе выйсце, прыймальнае тады, калі ўжо немагчыма, па тых ці іншых прычынах, узяць на сябе клопат пра іх. У прынцыпе, яны маюць права застацца ў сваім доме, а ў жыцці дзіцяці павінны знайсці месца і час ажно да апошніх дзён свайго жыцця.

Цяпер зразумела, што да апошняга моманту жыцця мы павінны адорваць бацькоў пашанаю і любоўю. Ад гэтай запаведзі ніхто ніколі не можа быць вызвалены. Калі нашы бацькі адышлі з гэтага свету, то праяўляецца ўсё тое ў малітве, памяці пра магілы, пра давіну смерці. Паўтараю яшчэ раз: пашана і любоў да бацькоў — паказчык вартасці чалавека. Добрае дзіця, добрая дачка, добры сын, як правіла, — добры чалавек. Дрэнны сын, дрэнная дачка — ніколі не будуць добрымі людзьмі.

### АБАВЯЗКІ БАЦЬКОЎ ПЕРАД ДЗЕЦЬМІ

Чацвёртая запаведзь нармалізуе не толькі абавязкі дзяцей перад бацькамі, але і бацькоў перад дзецьмі. Быць жа добрым бацькам і добраю маці — зусім не такая ўжо лёгкая справа. Бацькі не павінны забываць пра тое, што Бог іх будзе судзіць перадусім з таго, наколькі яны былі добрымі бацькамі.

На судзе Хрыстус ім скажа проста: Я быў тваім дзіцем, Я чакаў часу нараджэння, ты Мяне забіў... забіла... Я быў тваім дзіцем, а ты не даў Мне есці, не даў Мне піць, не даў Мне дому, не даў Мне сэрца... "Што-кольвечы ўчынілі аднаму з гэтых малых, Мне ўчынілі". Хрыстус, як дзіця, аддае Сябе ў рукі бацькоў і ўсё, што Яго напаткае, калі было дабром, будзе Ім узнагароджана, калі было злом, будзе пакарана.

Сёння даволі часта ў душпастырскіх размовах маладыя людзі на пытанне, ці сустрэлі яны чалавека, якому маглі б паверыць, адказваюць: не сустрэлі. А калі пытанне датычыць бацькі альбо маці, з'яўляюцца слёзы і нават сумнае прызнанне: "бацьку ўвогуле нельга верыць". Драма. Бацька не заслугоўвае даверу сваіх дзяцей. Якія ж галоўныя элементы, што ўплываюць на давер дзіцяці да бацькі, да маці?

### КЛОПАТ ПРА ЖЫЦЦЁ

Бацькі абавязаны прыняць кожнае дзіця, якое ім Бог дае. Гэта іх першы і галоўны абавязак і ніхто іх ад гэтага вызваліць не можа. Разам з тым — гэта заклік да поўнай адказнасці за зачацце дзіцяці. Сёння псіхалогія ясна гаворыць пра тую незвычайную каштоўнасць, што крыецца ў прыняцці пачатага дзіцяці і ў драме таго дзіцяці, якога бацькі не прынялі. Ведаю маладога і вельмі вартаснага чалавека, які быў у духоўнай семінарыі і па прычыне слабой

нервовай сістэмы апынуўся ў клініцы. Там выявілася, што яго нервы былі знішчаны ўжо ў першыя месяцы ягонага жыцця, паколькі бацька не прымаў дзіцяці і настойваў, каб жонка зрабіла аборт. Маці, жывучы пад пастаяннаю пагрозаю, нарадзіла дзіця, але агрэсіўныя адносіны бацькі праз колькі гадоў давялі сына да неўралагічнай клінікі.

З хвіліны зачацця дзіцяці бацька і маці павінны атуліць апекаю яго жыццё, клапаціцца пра здароўе і адпаведнае развіццё. Тут мае значэнне таксама і клопат пра дом, ежу, адзенне і ўсё тое, што патрэбна для жыцця.

### ВЫХАВАННЕ

Бацькі адказваюць перад Богам за выхаванне сваіх дзяцей, уводзячы іх у свет маральных і рэлігійных каштоўнасцяў. Ані Касцёл, ані школа, ані дашкольныя ўстановы не могуць вызваліць бацькоў ад гэтай адказнасці...

Выхаванне цесна паяднана з добрым прыкладам, які бацькі даюць сваім дзецям. Дзіця пераймае пэўныя паводзіны дарослых, наследуючы іх. Уплыў бацькоў тут несумненна вельмі моцны. Таму таксама кожная спакуса, прычынаю якой сталі бацькі, заслугоўвае асаблівай суровай кары ад самога Бога.

Езус не завагаўся сказаць: "Бяда таму, праз каго прыходзяць спакусы. Лепей было б, калі б павесілі яму млынавы камень на шыю і ўтапілі яго ў глыбіні марской" (пар. Мц 18, 6).

Добры прыклад бацькі павінны даваць дзецям да апошняга моманту свайго жыцця на зямлі. Часта толькі сталыя адносіны бацькі альбо маці, іх цярпенне альбо смерць трапляюць да сэрца дзіцяці і прыводзяць яго на шлях годнага і Божага жыцця.

### ЗАЎВАГІ

Маці і бацька маюць не толькі правы, але і абавязак рабіць дзіцяці заўвагі нават тады, калі яно ўжо з'яўляецца самастойным і адказным чалавекам. Заўвагі не заўсёды бываюць плённыя. Можа так стацца, што яны аддаляць дзіця ад бацькоў, аднак, нягледзячы на гэта, бацькі павінны іх рабіць. Заўвагі такія павінны рабіцца з любові і з вялікім клопатам пра вернасць дзіцяці Божаму праву. Бацькі не могуць не рэагаваць на адыход дзіцяці ад Божых запаведзяў. Часта бацька альбо маці — гэта адзіныя людзі, якія могуць захаваць дзіця ад памылковага кроку альбо вярнуць яго з неадпаведнага шляху.

### МАЛІТВА

Бацькі з любові да сваіх дзяцей абавязаны маліцца за іх як мага часцей. Як правіла, прымае на сябе гэты абавязак той, хто найбольш удзельнічае ў рэлігійным жыцці. Звычайна гэта маці. Малітва маці можа здзейсніць цуд. Калі за чалавека моляцца бацька альбо маці, то ён не згіне. Ён можа доўга блукаць, часта трапляючы ў небяспеку, але малітва бацькоў яго ўратуе. Не раз уся любоў бацькоў сканцэнтравана ў шчырай малітве за дзіця, дасканалячы повязь крыві праз повязь духу, у якой прысутнічае сам Бог.

### ДАБРЫНЯ І ЛЮБОЎ

Калі дзіця мае добрых бацькоў, то і яно, як вырасце, хоча быць добрым бацькам і добраю маці. Яму лягчэй рэалізаваць гэты ідэал. І яно хоча стварыць падобны дом, які не складаецца толькі з прыгожай мэблі і каляровага тэлевізара. Дом — гэта адкрытае, любячае, добрае сэрца. Дом — гэта мудрае вымярэнне справядлівасці; гэта часам нялёгкая, але творчая заўвага; гэта заўсёды адкрытае сэрца маці і сэрца бацькі. Дзіця, якое расце ў такім доме, здолее адкрыць сваё сэрца. Колькі драмаў, колькі цяжкасцяў перажываюць дзеці з дзіцячых прытулкаў, калі ствараюць свае сем'і. Як жа часта яны гавораць: "Я не ўмею гэтага". Як яны прагнуць хоць на гадзіну ўвайсці ў дом, дзе ёсць добрая маці і добры бацька, увабраць у сябе тую атмасферу. "У нас ніколі не было такога". "Я гэтага не ведаю". Калі мы хочам адкрыць мудрасць чацвёртай запаведзі, то павінны паглядзець на яе не толькі з пазіцыі дзяцей, але і з пазіцыі бацькоў. Дзеці яшчэ толькі вучацца, а бацькі ўжо валодаюць вопытам. Ім лягчэй адкрыць мудрасць, якую Бог заклаў у гэту кароткую фразу: "Шануй бацьку і маці сваю". (...)

*Пераклад Крыстыны Лялько*

*Працяг будзе.*

*Пачатак у №№ 1-2, 3-4, 5-6 за 1998 г.*







# Чаму трэба ўдзельнічаць у Святой Імшы?

## СВЯТАЯ ІМША

Старэйшыя вернікі, напэўна ж, памятаюць Святую Імшу, якая адпраўлялася на лаціне, што была універсальнаю моваю ва ўсім Касцёле. Яна грунтавалася на выдадзеным пасля Трыдэнцкага Сабору (1545–1563) ***Рымскім Імшале (1570)***. Імша, называная ***"трыдэнцкай"***, перадусім падкрэслівала характар ***Эўхарысты як Ахвяры***, якая па запавету Хрыста справуецца толькі тымі, хто мае сакрамэнт святарства (біскупамі і прэзбітэрамі). Адпраўляючы Імшу, святар стаяў тварам да алтара, а да вернікаў паварочваўся адно што ў часе "паднясення". Імшал 1570 г. падрабязна акрэсліваў заданні святароў і міністрантаў, але не ўспамінаў пра вернікаў і іх заданні ў часе імшальнай службы. Іхнім абавязкам было адно што "слухаць Святую Імшу". На практыцы ж вернікі альбо адгаворвалі прыватныя малітвы, альбо супольна спявалі (напрыклад, "гадзінкі"), альбо маліліся ружанец. Святая Камунія ўдзялялася вернікам перад Імшой альбо пасля яе. Таксама і казанне, прамоўленае на мове народа, сталася самадзейнай часткай літургіі. Толькі пад канец XIX ст. вернікаў пачалі ўключаць у літургію Святой Імшы. З гэтай мэтай для іх былі выдадзены ***"Імшалікі"***, тады ж імкнуліся развіваць сур'ёзную літургічную фармацыю, падкрэсліваючы лучнасць Літургіі Слова і Літургіі Эўхарыстыі, а таксама сувязь паміж Святой Камуніяй і Ахвярай, якая адпраўлялася. У "Імшаліках" збоч лацінскага тэксту змяшчалі яго пераклад.

Рэформы, што пачаліся пры Піі X (пам. 1914), якога называлі "папам Эўхарыстыі"[1], і паглыбіліся ягонымі наступнікамі, асабліва Піем XII (пам. 1958) і Янам XXIII (пам. 1963) прычыніліся да ажыўлення ўдзелу вернікаў у Святой Імшы, частай Святой Камуніі, а таксама падрыхтавалі грунт для рэформы ***Другога Ватыканскага Сабору***. Эфектам гэтай рэформы быў сярод іншых новы ***Рымскі Імшал 1970 г.*** Для кожнага відавочна, што змены ў Літургіі тычацца ўпрашчэння абрадаў, што зрабіла іх больш зразумелымі для вернікаў. Святар ужо не адпраўляе адзін ахвяры ў імя люду, але робіць гэта ***разам*** з людам. Між іншым, таму ён і стаіць тварам да нас. Пасля-саборавая літургіка падкрэслівае, што Святая Імша — гэта ***Супольнасць з Панам***. Таму ўдзел у ёй — не толькі прыход у святыню, каб памаліцца, а тым больш, каб выканаць абавязак. Удзел у Святой Імшы — гэта кожны раз ***перажыванне*** нанова прысутнасці Вячэрніка, Кальварыі і Гробу Змёртвыхпаўстання. У гэтай Супольнасці Касцёл — Цела Хрыста — праяўляецца ва ўсёй паўнаце, бо ***збірае ў адно*** Божых дзяцей, рассеяных патрабаваннямі што-

дзённых абавязкаў. Звернем увагу на словы, якія Касцёл моцна падкрэслівае: “***У часе адпраўлення Святой Імшы вернікі ўтвараюць святую супольнасць, люд, набыты Богам, і каралеўскае святарства***, каб дзякаваць Богу, прыносіць у ахвяру беззаганную Гостыю ***не толькі праз рукі святара, але разам з ім*** і вучыцца ***прыносіць саміх сябе ў ахвяру***”.

Мэтай літургічных рэформаў з'явілася актыўнае ўключэнне вернікаў у Імшу. Гэта было немагчыма, калі мовай Літургіі была незразумелая лаціна, а мовы народаў ужываліся толькі ў спевах, чытаннях Святога Пісання і ў казаннях.

Абрады Святой Імшы складаюцца з дзвюх галоўных частак: з ***Літургіі Божага Слова*** і з ***Эўхарыстычнай Літургіі***. Паміж імі ёсць цесная сувязь, яны разам утвараюць адно цэлае. Яшчэ раз падкрэсліваю: не святар адпраўляе Святую Імшу, але ***мы разам са святаром***, які кіруе літургічнай акцыяй і ў імя ўсёй Супольнасці заносіць да Бога малітвы. Вернікі ўдзельнічаюць у Святой Імшы праз супольны спеў, малітвы, дыялог са святаром, жэсты і паставу цела, а таксама праз маўчанне.

Ніжэй пададзены парадак Святой Імшы, некаторыя часткі даюцца і на лаціне.

**Парадак Святой Імшы**

***Літургія сустрэчы***

Асабістае прывітанне з Хрыстом, прысутным у Найсвяцейшым Сакрамэнце.
Ушанаванне алтара.
Спеў на ўваход і ўваход (Intrait).
Прывітанне.
Пакаянне.
Агульная споведзь (Confiteor).
Умольная просьба літасці (Kyrie).
Святарская малітва.
Хвала на вышынях Богу (Gloria) — у часе ўрачыстасцяў і святаў, а таксама ў нядзелі, апроч перыяду Адвэнту і Вялікага Посту.
Малітва дня (Калекта).

***Літургія слова***

Чытанне.
Рэспансарыйны псальм.
Чытанне II (у нядзелі і ўрачыстасці).
Спеў “Алелюя” (у Вялікім Посце яго замяняе Tractus, альбо Псальм).
Евангелле.
Казанне (Homilia).
Вызнанне веры (Credo).
Малітва верных.

***Літургія Эўхарыстыі***

Прыгатаванне дароў (Offertvrium).
Эўхарыстычная малітва.
Прэфацыя.
Дыялог.
Малітва падзякі.
Гімн “Святы...” (Sanctus) Багаславёны (Benedetus).
Просьба спаслання Святога Духа (Epikleza).
Аповед аб устанаўленні Эўхарыстыі і Кансэкрацыя.
Успамін пра збаўчую справу Хрыста (Anamneza).
Акламацыя Таямніцы веры.
Ахвяраприынашэнне.
Просьба плённай Святой Камуніі.
Малітвы заступніцтва.
Даксалёгія.
Абрад ахвярнай урачыстасці.
Малітва Панская (Ойча наш...).
Эмбалізм.
Просьба спакою і еднасці.
Паяднанне з іншымі людзьмі. Знак спакою.
Ламанне хлеба і ўмольная малітва аб міласэрнасці і спакоі (Agnus Dei).
Святая Камунія.
Падзяка.

***Літургія заканчэння***

Малітва пасля Камуніі.
Душпастырскія аб'явы.
Благаслаўленне.
Выправа супольнасці.



*У наступным нумары “Ave Maria” мы спынімся над асобнымі часткамі Св. Імшы, над малітвамі і нават над асобнымі словамі.*

---

[1] Лозунгам пантыфікату Пія X было: “*Усё аднавіць у Хрысце*”. Ён заахвочваў вернікаў часта прымаць Святую Камунію, выдаў дэкрэт пра частую Камунію вернікаў пад дзвюма ўмовамі: каб прымалі яе (з любові да Езуса) у добрай інтэнцыі і ў асвячальнай ласцы. Ён таксама выдаў дэкрэт аб ранняй Святой Камуніі дзяцей. Гэты Папа заахвочваў вернікаў часта ўдзельнічаць у Святой Імшы, правёў рэформу касцельнага спеву.

[2] Пій XII устанавіў касцельныя рэформы ў энцыкліцы “*Mediator Dei*”. У 1955 г. энцыклікай *Maxima redemptionis* ён аднавіў парадак Вялікага Тыдня. Дэкрэт *Musicae sacrae disciplina* вызначаў ролю і парадак ужывання касцельнае музыкі. Пій XII дазволіў адпраўляць Святую Імшу ўвечары і змяніў асновы эўхарыстычнага посту.







*Андрэй*
***АЛЯКСАНДРАЎ***

* * *

Ліхтары зноў ліюць мяккі холад святла
На бясконцую шэрасць дарогі.
У гэты вечар яна
Застаецца адна
Каб узнесціся думкай да Бога.

Крылы шчырых малітваў узнімуць яе
Над пустэчаю злой гарадскою,
І ўбачыць яна, як Пан Езус ідзе,
Блаславляючы свет цішынёю.

Упадуць на зямлю слёзы з ейных вачэй,
Скалануўшы душы чыстай нетры,
І маўклівы паўзмрок адзінокіх начэй
Зноў падзе перад полымем веры.

* * *

Нас шчодра жыццё барацьбой надзяляе,
І трэба змагацца, каб выжыць.
І часта на гэтым шляху выпадае
Камусьці ў твар пракрычаць:
“Ненавіджу!”

У той барацьбе, поўнай чорнае злосці,
Часцей і часцей мы, на жаль, забываем,
Да сэрца свайго прытуліўшы кагосьці,
З пяшчотай ціхутка прамовіць:
“Кахаю...”

* * *

Гарачыя словы забытай малітвы
На зоркавым пыле запісвае вецер,
І першыя гукі апошняе бітвы
Пануюць ужо ў неабдымным сусвеце.

І, ўзняўшы, як сцяг, слова Праўды жывое,
Выходзіць паэт, каб у бітве сустрэцца
З хлусліваю цемрай.
Ягоная зброя —
Паходня гарачага юнага сэрца.

Ён верыць у неба і ўпэўнена ходзіць
Па тонкім лязе акрываўленай брытвы.
І ён пераможа — і ціха паўторыць
Гарачыя словы забытай малітвы.



*Алесь*
***ДЗІТРЫХ***

ХРЫСТОС ЖЫВЕ НА БЕЛАРУСІ

Хрыстос жыве на Беларусі.
Ён кожны дзень і ў кожны час
Сваёю ласкай лечыць душы
І сэрцы кожнага між нас.
Цяплом рукі сваёй пяшчотнай
І дабрынёй сваіх вачэй
Ён саграе усіх гаротных
У чорнай бездані начэй.
Учынкам кожным Ён кіруе,
Які ты робіш на дабро.
І кожны грэх заўжды даруе,
Калі захочаш ты таго.
Яму адчыніш сваё сэрца —
І паўнаводнаю ракой

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Святло любві туды ўвальецца —
Жаданы мір і супакой.
Ён лечыць ласкай нашы душы
У кожны дзень, у кожны час.
Хрыстос жыве на Беларусі,
Хрыстос заўжды жыве між нас!

### ДА ХРЫСТА

Не шукаў я Цябе, здаецца, —
Ты сам да мяне прыйшоў,
Калі я ачысціў сэрца
І ў праўду паверыў зноў.

Табе я не верыў калісьці.
Сумненне — у сэрца нож.
Ды ўсё адно, мой Хрысце,
Я бег да Цябе басанож

Па цернях ілжы і здзеку.
На крыўды ў адказ маўчаў
І кожнаму чалавеку,
Як Ты навучыў, прабачаў.

Я не баюся ўпасці,
Нішто мне падману асцё,
Бо Ты блаславіў на шчасце
Мяне і маё жыццё.

### САД ГЕФСІМАНСКІ

У Гефсіманскім садзе
Радзіма маёй душы.
Будзь блаславёна, суладдзе
Веры, малітвы й цішы!

Сонца з-за райскіх вяршыняў
Грае брыльянтамі рос —
Ты пасылаеш з вышыняў
Слязу мне сваю, Хрыстос.

Шлях прабівае скрозь лісце,
Шырыцца ў сэрцы святло —
Ласка Твая, мой Хрысце,
Вылечыць сэрца маё.

Блізкім здаецца шчасце,
Сцежка вядзе ўдалячынь:
Там не змагу я прапасці,
Там я знайду спачын.

### БРАТ

Мой брат, не верыш ты Хрысту —
Сабе не верыш.
Хлуснёю ж вітаеш за вярсту —
Ёй насцеж дзверы.

Хлусня ў аблічча пекнаты
Звядзе далёка.
"Яна ёсць праўда! — Лічыш ты. —
Так цешыць вока!

І я такое хараство
Не прамяняю
На нейкіх духаў, і Раство,
І пекла з раем.

Ты з тваёй праўдай адкажы:
Як Бог бясконцы
Змясціцца можа у душы?"

— А як змяшчаецца, скажы,
У воку сонца?





## НАШЫ СВЯТЫНІ




Дзень 14 жніўня 1998 г. стаў гістарычным у лёсе Пружанскага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны: адрэстаўраваная, аднаўленая ў сваім першапачатковым выглядзе святыня, была ў гэты дзень рэкансэкравана. Прыгожая ўрачыстасць сабрала не толькі мясцовых парафіянаў, не толькі святароў і вернікаў з Беларусі, але і шматлікіх гасцей з розных куткоў свету. У Пружаны з'ехаліся тыя, для каго гэты касцёл стаў у свой час першым у жыцці Домам Божым: кагосьці з іх тут хрысцілі, хтосьці прымаў тут Першую Св.Камунію, хтосьці браў шлюб... Апынуўшыся далёка ад Радзімы, пружанцы не забылі яе, не забылі яны таксама і свайго касцёла: іх ахвяраванні, іх падтрымка дапамагалі пробашчу а.Эдварду Лоеку аднаўляць гэты знявечаны Дом Божы...

Лёс Пружанскага касцёла шмат у чым падобны да лёсу іншых каталіцкіх святыняў на нашай зямлі. Але і ў гэтым трагічным падабенстве ёсць свае асаблівасці, якія ўражваюць і прымушаюць шмат аб чым задумацца.

Збудаваны праз паўтара дзесяцігоддзя пасля Студзеньскага паўстання 1863 г., касцёл стаў сведкам пераследу каталіцкай веры ў нашым краі і разам з тым — яскравым сведчаннем яе трываласці і нязломнасці.

Паводле гістарычных звестак, 21 снежня 1878 г., пасля доўгіх адтэрміновак царскія чыноўнікі нарэшце зацвердзілі праект будовы гэтай святыні. Але тым жа праектам было абумоўлена, што будынак касцёла не павінен узвышацца над іншымі забудовамі ў горадзе. Менавіта таму прыйшлося адмовіцца ад узвядзення вежаў, а скляпенні былі выведзены пад самы дах, каб максімальна выкарыстаць аб'ём будынка.

Так, з самага свайго пачатку, суджана было гэтай святыні адчуць уціск і няволю, якія перажывала каталіцкая вера ў часы расейскай акупацыі на нашых землях, асабліва пасля задушэння Студзеньскага паўстання.

На жаль, лёс мае ўласцівасць паўтарацца, наносячы часам удары яшчэ больш жорсткія і балючыя. Згадваючы драматычныя даты ў гісторыі пружанскай святыні, нельга абысці яшчэ адну: 17 снежня 1944 г.

Менавіта ў той дзень нкусаўцы арыштавалі вікарыя Пружанскага касцёла ксяндза Казіміра Свёнтка, цяперашняга кардынала, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага і Апостальскага Адміністратара Пінскай дыяцэзіі. З парогу святыні, якой ён аддаў першыя пяць гадоў свайго святарскага служэння, пачаўся яго дзесяцігадовы пакутніцкі шлях па этапах сталінскага Гулагу. Але і ў той страшны снежаньскі дзень малады святар не траціў надзеі на Божую міласэрнасць і апеку Найсвяцейшай Маці. Развітваючыся на парозе плябаніі са сваім пробашчам кс. Антоніем Ройкам, ён не прамовіў роспачнага "бывай", а сказаў прарочае — "да сустрэчы". І хоць сустрэча з пружанскаю святыняю і з яе вернікамі адклалася на доўгі час, усё ж яна адбылася. Праўда, шлях да яе быў цярністы і цяжкі.

Касцёл рашэннем Пружанскага райвыканкама ўлады зачынілі, а 19 красавіка 1951 г. аддалі пад дом сацыялістычнай культуры, які мясцовыя бязбожнікі апальвалі драўлянымі дэталямі разбітых касцёльных арганаў. Да сцішнаты знаёмае і, на жаль, тыповае варварства. Зразумела, што і сам будынак касцёла, як знешне, так і ўнутры, быў перароблены, прыстасаваны для пустых забаваў і паказу кінафільмаў.

Так працягвалася да 1991 г. Менавіта ў 91-м на Беларусь прыехаў місіянер ордэна палатынаў, ксёндз Эдвард Лоек, які і быў прызначаны душпастырам Пружанскай парафіі. Вось як ён сам успамінае той час: "Пачынаючы са жніўня 1991 г., я кожную нядзелю адпраўляў у Пружанах Святую Імшу ў капліцы на каталіцкіх могілках. Збіралася на тыя набажэнствы каля 50 чалавек. Заахвочваючы іх да большай пабожнасці, я прасіў прыводзіць сюды тых, хто пакуль што альбо баяўся, альбо саромеўся прыходзіць сам. І ўжо ў кастрычніку таго ж года група найбольш адважных вернікаў са свечкамі і ружанцамі ў руках кожны дзень малілася на прыступках "дому культуры" аб вяртанні святыні. Маці Божая, Апякунка гэтага касцёла, пачула просьбы сваіх дзяцей, бо ўжо 8 снежня 1991 г., у другую нядзелю Адвэнту, у зале для дыскатэкі адбылася першая за паўстагоддзя Святая Імша. Улады згадзіліся на тое, каб вернікі маліліся ў гэтай зале, але толькі тады, калі там не было "культурных" мерапрыемстваў. Так працягвалася 14 месяцаў, да 1 лютага 1993 г., калі знявечаная святыня была цалкам

аддадзена Пружанскай парафіі.

З таго часу пачалася праца па рэстаўрацыі і рэканструкцыі касцёла. Дзякуючы добразычлівасці прафесара Віктара Зіна з Кракава Інстытут кансервацыі помнікаў Кракаўскай палітэхнікі бясплатна зрабіў поўную інвентарызацыю аб'екта і распрацаваў дакументацыю па рэканструкцыі касцёла. Зразумела, пачатак вяртання яго да жыцця быў надзвычай цяжкі..."

Пра гэты пачатак, пра адбудову святыні хоць і фрагментарна, але красамоўна распавядаюць фотаздымкі, якія ўдала падабраны на выставе, размешчанай у галерэі аднаўленага касцёла. А тое, што па-за імі, тое, чаго не ў стане зафіксаваць аніякі фотааб'ектыў, ведае Пан Бог, ведаюць тыя, хто, не шкадуючы сваіх сілаў і часу, працаваў на рэстаўрацыі пружанскага касцёла, і ведае, памятае ён, ахвярны святар, дзекан пружанскага дэканату і пробашч гэтай парафіі кс. Эдвард Лоек. Успамінаючы пражытыя тут сем гадоў, ён не хавае, што былі яны надзвычай напружаныя і цяжкія. “Калі гляджу сёння на адроджаную святыню, — кажа ксёндз Эдвард, — то ўжо амаль не памятаю тае працы і намаганняў, якія сюды былі ўкладзены. Зрэшты, каб хоць часткова пра іх распавесці, трэба было б напісаць кнігу... Трэба было б апісаць тыя сотні тысяч пераадоленых кіламетраў у пошуках сродкаў і будматэрыялаў, тыя ўсе недаспаныя ночы, тыя складанасці на граніцы, калі завозіліся неабходныя для рэстаўрацыі матэрыялы, тых людзей, якія мне дапамагалі, бо што я мог бы зрабіць сам, адзін... Але, нягледзячы на ўсе пэражытыя цяжкасці, цяпер у душы жыве радасць ад таго, што праца наша не прапала марна. А яшчэ — вялікая, бязмежная ўдзячнасць. Перадусім — Богу. За тое, што даў мне жыццё, што мяне выбраў і абдараваў святарствам, за тое, што я стаў місіянерам, што трапіў на Беларусь і менавіта ў гэты час. Я бясконца ўдзячны людзям, якіх Бог мне пасылае..."

Зразумела, што нават пры усім жаданні ксёндз Эдвард не мог бы іх усіх пералічыць, але пра ўсіх ён памятае ў сваіх малітвах, усіх аддае ў апеку Маці Божай...

Дзень 14 жніўня выдаўся не палетняму халодны і дажджлівы. Але гэта зусім не псавала радаснага, прыўзнятага настрою тым, хто сабраўся на свята рэкансэкрацыі Пружанскага касцёла Унебаўзяцця НМП.





І вось доўгачаканы ўрачысты момант: Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк адчыняе дзверы адроджанай святыні... Што перажываў ён у тыя хвіліны? Якія пачуцці валодалі яго сэрцам?..

У часе гаміліі арцыбіскуп не хаваў свайго ўзрушэння, і настрой душпастыра перадаваўся вернікам. Многія з іх адчувалі ў той дзень тое ж самае хваляванне, бо з сённяшнім кардыналам іх яднала перажытае, бо многія яшчэ добра памятаюць таго маладзенькага вікарыя, які служыў у іхнім касцёле ў далёкія саракавыя...

Сапраўды, Усемагутны і непераможны Ты, Пане Божа, і бязмежна шчодрая Твая любоў і ласка да тых, хто Табе ахвярна і верна служыць.

Як запавет і айцоўскі наказ гучалі словы кардынала Казіміра Свёнтка ў прыгожай аднoўленай святыні. Былі яны пра тое, што нельга спыніцца і расчулена супакоіцца, аднавіўшы адно будынак касцёла: “Кожны павінен памятаць: святыня трымаецца на нашай моцнай, непахіснай веры ў Бога і на вернасці, адданасці свайму Касцёлу. Няхай жа гэта адроджаная святыня будзе вечна жывою крыніцаю ўзнаўлення ў нашых душах веры, рэлігійнага жыцця і прыналежнасці да каталіцкага Касцёла..."

У той момант, калі на асвечаным алтары запальваліся свечкі, праз новыя вітражы зазірнула ў касцёл сонца. Неспадзявана ў гэты дажджлівы дзень Неба паслала людзям сваё святло. Заяснелі ў яго прамянях бялюткія сцены святыні, алтары, аднoўленыя, адкрытыя над прэзбітэрыем фрэскі. Чатыры евангелісты спакойна і мудра пазіралі са сваёй вышыні, і Дух Святы, як і калісьці, распасціраў тут свае крылы.

***Крыстына Лялько***

*На здымках Ю.Лукашэвіча і З.Сордыль –* свята рэкансэкрацыі ў Пружанах.







# Заснавальнік Кангрэгацыі святароў місіянераў

Св. Вінцэнты дэ Поль нарадзіўся 24 красавіка 1581 г. у Пуі каля Дакса (Францыя). Пасля некалькіх гадоў вывучэння тэалогіі, у 1600 годзе, ён атрымаў святарскае пасвячэнне. Пераломны момант у яго жыцці наступіў у 1613 годзе, калі ён пачаў выконваць абавязкі капелана сям'і Філіпа дэ Гондзі (генерала марскога флоту Францыі).

Яго казанне, прамоўленае 25 студзеня 1617 г. у Фальвілі, сталася духоўным пачаткам Кангрэгацыі, пакліканай абвяшчаць Евангелле выключна ўбогім. Дзякуючы дапамозе сям'і дэ Гондзі Вінцэнты заснаваў у 1625 годзе Кангрэгацыю святароў місіянераў, галоўным заданнем якой стала арганізацыя місіі для людзей, а пазней таксама і фармацыя духавенства дыяцэзіі.

Заўважаючы, што матэрыяльная беднасць перашкаджае людзям прымаць Евангелле і жыць паводле яго, Вінцэнты распачаў акцыю міласэрнасці, засноўваючы між іншым брацтва міласэрнасці (1617) і супольнасць жанчын міласэрнасці (1634). Разам са св. Людвікай дэ Марыльяк у 1633 г. ён заснаваў Кангрэгацыю сясцёр міласэрнасці (шарыткі). Яго дзейнасць была прызнана амаль ва ўсёй тагачаснай Францыі.

Памёр Вінцэнты 27 верасня 1660 г. у Парыжы, у 1729 г. быў беатыфікаваны, а ў 1737 г. – кананізаваны. У 1885 г. папа Леон XIII абвясціў св. Вінцэнта апекуном усіх акцый міласэрнасці, якія асноўваюцца на яго духоўнасці.

## Місіянеры

Кангрэгацыя святароў місіянераў (вядомая таксама пад назвай Кангрэгацыя місіі) была заснавана ў 1625 г., а ў 1633 г. зацверджана ва ўсім Касцёле папам Урбанам VIII. Гэта Кангрэгацыя аб’яднала духавенства, якое, распачынаючы жыццё ў супольнасці, прагнула прысвяціць сябе абвяшчэнню Евангелля ўбогім.

Паводле дэвізу Кангрэгацыі: "абвяшчаць Евангелле ўбогім паслаў мяне Пан", яе галоўнаю мэтаю стала наследванне Хрыста, абвяшчэнне Добрай Навіны ўбогім. Праяўляецца гэта ў вядзенні парафіяльных місій і ў клопаце аб падрыхтоўцы адданых душпастыраў. Кангрэгацыя займаецца фармацыяй духоўных і свецкіх, каб у будучым яны змаглі эфектыўна выканаць гэтае пасланніцтва Хрыста.

У супольнасць Кангрэгацыі місіі ўваходзяць святары, браты і алюмны, якія рыхтуюцца да пасвячэння. Рысы духоўнасці гэтай супольнасці акрэсліваюць чатыры шлюбы: праца для ўбогіх, чыстасць, убоства і паслухмянасць, а таксама дабрадзейнасці: пакора, прастата, лагоднасць, утаймаванне і апостальская стараннасць. Сёння Кангрэгацыя налічвае больш за 4.000 святароў, братоў і алюмнаў у 48 правінцыях і віцэправінцыях.

## Сейбіты Добрай Навіны

Св. Вінцэнты клапаціўся пра духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей, асабліва ўбогіх. Яго ўлюбёнаю справаю былі місіі для людзей у Францыі і ў іншых краінах.

Польскія місіянеры сталі вядомымі таксама дзякуючы гэтым місіям, якія праводзіліся на вялікай тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Праводзілі яны і рэкалекцыі для духоўных і свецкіх. Сёння члены Польскай Правінцыі праводзяць штогод каля 200 місій і парафіяльных рэкалекцый для духавенства і моладзі. Кангрэгацыя з самага пачатку далучылася да місійнай дзейнасці сярод паганаў (Мадагаскар), а таксама ў мусульманскіх краінах (Берберыя). Польская Правінцыя дапамагае місіям у Кітаі (1929-1948), а пасля II сусветнай вайны на Мадагаскары (1970) і ў Заіры (1976). Новым полем дзейнасці з’яўляюцца землі дзяржаў, дзе да нядаўняга часу Касцёл праследваўся атэістычным урадам: Албанія, Беларусь, Літва і Украіна.

Польская Правінцыя дапамагае таксама замежным дыяцэзіям, у якіх адчуваецца недахоп святароў як у краінах Еўропы (Аўстрыя, Данія, Францыя), так і на іншых кантынентах (Балівія, Бразілія, ЗША). Сёння па-за межамі краіны працуе каля сотні святароў і братоў, якія паходзяць з Польскай Правінцыі.

## ФАРМАЦЫЯ ДУХОЎНЫХ



Адна з галоўных мэтаў Кангрэгацыі – фармацыя духавенства. У XVIII ст. большасць польскіх дыяцэзіяльных семінарый знаходзілася пад кіраўніцтвам місіянераў. Перад II сусветнай вайной Польскай Правінцыі даручылі весці семінарыі для катавіцкай дыяцэзіі, а пасля 1945 г. распачалі фармацыю духавенства на вернутых землях – у Гожаве Вялікапольскім і ў Гданьску. Сёння місіянеры займаюцца выкладчыцкай дзейнасцю ў каталіцкіх вучэльнях: у Акадэміі Каталіцкай Тэалогіі ў Варшаве, у Папскай Тэалагічнай Акадэміі ў Кракаве і ў Каталіцкім Універсітэце ў Любліне.

У апошнія гады Польская Правінцыя дапамагае семінарыям па-за межамі краіны: на Беларусі, у Славакіі, Італіі, а таксама на місійных землях (Мадагаскар, Заір).

З XVII да XIX ст., калі на Усходзе была Літоўская Правінцыя, місіянеры працавалі ў наступных парафіях і месцах душпастырскай працы: Вільня, Астрахань, Ілукшта, Камянец Падольскі, Краслаў, Лыскаў, Мінск, Магілёў, Орша, Асвей, Паўлаўск, Саратаў, Сямяцічы, Смалявічы, Ворны, Заслаў і Жытомір.









# ЗНАЙСЦІ СВАЁ ШЧАСЦЕ

Святы Ян Златавусны ў адным са сваіх казанняў параіў хрысціянам: "І нават уначы... падымайся, станавіся на калені і маліся... Трэба, каб твой дом быў пастаянным домам малітвы, Касцёлам".

Ці шмат якія сем'і могуць сказаць пра сябе, што яны з'яўляюцца Касцёлам? Ці шмат хто скажа, што ў ягонай сям'і поўнасцю рэалізаваны Божы наказ: "Любі Пана Бога твайго ўсім сэрцам сваім, усёй душою сваёю, усімі думкамі сваімі. Любі бліжняга, як самога сябе"? На жаль, часцей пачуеш скаргі на тое, што хтосьці ў сям'і зусім не хоча ведаць Бога, хтосьці забыў, а то і не ведаў дарогі ў касцёл, хтосьці даўно адкінуў як перажытак Божыя запаведзі, хтосьці не прызнае святых сакрамэнтаў, а то і адкрыта насміхаецца з веры. Гэткіх скаргаў — толькі пачні падобную гутарку ў любой парафіі — пачуеш колькі заўгодна. І часам падумаеш тады: "Ды ці ёсць яно ўвогуле іншае, шчаслівае жыццё ў нашых сем'ях, тое, што працякае па Божых законах?"

Два гады таму "Ave Maria" пісала пра некалькі сем'яў з Магілёва, што аб'ядналіся ў "хатні Касцёл". І вось не так даўно, трапіўшы ў Магілёў, я захацела даведацца, ці жыве гэты рух тут і надалей і ці прыносіць ён плён. Запытала пра гэта ў законнай сястры Ядвігі, якая занятая гэтай працай, і замест адказу пачула прапанову сустрэцца з некалькімі сем'ямі.

На сустрэчу за кубкам гарбаты прыйшлі Альдона і Аляксандр Шульгоўскія і Юрый ды Наталля Гаравыя. З радасцю даведалася ад іх, што "хатні Касцёл" жыве і пашыраецца. Цяпер і Шульгоўскія, і Гаравыя самі з'яўляюцца аніматарамі, г.зн. пашыраюць сярод іншых ідэю "хатняга Касцёла". Але што даў "хатні Касцёл" ім самім? Зрэшты, пра гэта можна было б і не пытацца. Бо ў вочы адразу кідаюцца нейкія асабліва цёплыя, сардэчныя адносіны ў гэтых сямейных парах, а яшчэ і тое, з якой цеплынёй яны распавядалі пра іншых удзельнікаў "хатняга Касцёла".

Часта, на жаль, бывае так, што жыццё цячэ сваім кірункам, а вера — сваім. Ходзім у касцёл, молімся, слухаем слова Божае, згаджаемся з ім, а жывем... па-свойму. І як жа часта ў хвіліны доказу сваёй праваты мы проста забываем, што перад намі той самы бліжні, якога Хрыстус наказаў нам любіць самааддана і шчыра, так, як Ён палюбіў нас. Як жа навучыцца гэтаму?

У "хатняга Касцёла" ёсць свае "рэцэпты". Напрыклад, сямейная малітва, у якой удзельнічаюць усе члены сям'і і ў часе якой сям'я супольна моліцца за ўсё тое, што ляжыць на сэрцы ў кожнага. Магчыма, у такія хвіліны і нараджаецца тое сапраўднае суперажыванне бліжняму? А можа, яно нараджаецца ў часе сужэнскага дыялогу, калі муж і жонка, запаліўшы свечку, разам памаліўшыся, прачытаўшы ўрывак з Евангелля, пачынаюць абмеркаванне набалелага, таго, што трывожыць? Спакойна і шчыра, з даверам адзін да аднаго і глыбокай верай, што гэты дыялог адбываецца ў прысутнасці самога Хрыста. Альдона Шульгоўская называе сужэнскі дыялог выратавальным колам. Яна лічыць, што менавіта даверлівы штомесячны дыялог дапамог духоўнаму станаўленню яе сям'і, той рэдкай сям'і, якая праменіцца шчасцем.



За кубкам гарбаты ў Чавусах.

Вядома ж, напачатку і ў іх усё было няпроста. Былі і слёзы, і неразуменне паміж мужам і жонкай, паміж бацькамі і дзецьмі. Ды перамагла моц малітвы. Цяпер Наталля ўспамінае, як яна, яшчэ не ведаючы асабіста Альдоны, зайздросціла яе шчырай малітве ў касцёле. Глядзела тады на яе збоку і думала: "Вось бы і мне навучыцца гэтак размаўляць з Богам".

Ды, напэўна, і сама Наталля малілася не менш шчыра, а можа, Пан Бог прыняў яе шчырае жаданне. Але праз пэўны час і Наталля з мужам таксама прыйшлі ў кола "хатняга Касцёла". Прыйшлі і адразу прынялі яго правілы і патрабаванні.

І адна, і другая сям'я ў свой час поўнасцю адмовіліся ад ужывання алкаголю. Напачатку многія з недаверам аднесліся да іх пастановы: маўляў, ці патрэбна гэта і ці магчыма, каб зусім ні кроплі не ўжываць спіртнога? Жыццё паказала, што магчыма. І патрэбна. Ды і цікавей пасядзець з сябрамі за кубкам гарбаты, а не з пляшкай на стале, якая зусім не яднае, але наадварот — падзяляе людзей. Тут важна не даказаць сваё, а ўласным прыкладам пераканаць іншых: без алкаголю, без гэтага атрутнага яду чалавецтва можна жыць. А яшчэ сваё адмаўленне ад спіртнога можна ахвяраваць

за тых, хто за гарэлкай свету не бачыць. Малітва за іх — пастаянны клопат "хатняга Касцёла".

На сустрэчах колаў "хатняга Касцёла" ў духу Евангелля абмяркоўваюцца самыя розныя праблемы. Напрыклад, у першы год зазвычай абмяркоўваецца, як зразумець Божы план адносна кожнага з нас, як усвядоміць сваю грахоўнасць, прыняць Хрыста як Пана і Збаўцеля. На першы погляд, здаецца, нічога складанага для хрысціяніна тут няма. Але калі паставіць задачу (а менавіта так і ёсць у "хатнім Касцёле) не толькі розумам усвядоміць прапанаваныя тэмы, але і жыць па іх кожны дзень,



Адзін з незабыўных вечароў у Камаях. Спяваюць дзеці.



"Выхад з Егіпецкай няволі".

кожную хвіліну, тады і зразумееш, што не так гэта ўсё проста.

Як навучыцца любіць іншых? Як прыняць Хрыста? Якім быць сярод іншых людзей? Як навучыцца весці дыялог? Працаваць над сабой?

Усяму гэтаму яны вучацца ў сваіх колах "хатняга Касцёла". Кожнае кола складаецца з 4—7 сем'яў, якія звязвае малітва ды жыццё па Божых запаведзях.

Самае складанае, усведамляюць многія, навучыцца працаваць над сабой. Бо да таго часу, пакуль не пачнеш як след працаваць над сабой, не зможаш зычліва, па-хрысціянску ўспрымаць іншага чалавека.

Колы "хатняга Касцёла" за гэты час самі сталі дружнымі сем'ямі. Тут не бывае чужых інтарэсаў і чужых бедаў, як і чужых радасцяў. Тут усё сваё, супольнае. Не прыйшоў хтосьці ў нядзелю ў касцёл, і адразу сябры ўстрывожацца: што магло здарыцца? Калі хворы — наведаюць, а здарыцца якая непрыемнасць — прапануюць сваю дапамогу.

Усе ўдзельнікі "хатняга Касцёла" вельмі любяць успамінаць, калі і дзе былі на рэкалекцыях, у якіх яны даволі часта ўдзельнічаюць. Ці не найдаражэйшы ўспамін — Камаі. Чаго варты толькі Вялікдзень у Камаях, напярэдадні якога ўсе 25 чалавек удзельнічалі ў "выхадзе ізраільцянаў з Егіпту". Той сімвалічны выхад, праўда, быў значна карацейшы за вядомы ў гісторыі. І доўжыўся ён з Камаёў да Мегунаў. А шматлікія супольныя святкаванні і рэлігійных, і сямейных святаў?..

Сапраўды, як такое не назавеш аазісам? І вельмі добра, што гэты аазіс не замыкаецца ў сабе, але пашырае свае межы. Летась Альдона з Аляксандрам і Наталля з Юрыем былі ў Паставах, давалі там сведчанне пра свой "хатні Касцёл", прынцыпы яго арганізацыі і дзейнасці. І што ж? У хуткім часе ў Паставах таксама арганізаваліся колы "хатняга Касцёла". Тое ж самае адбылося і пасля іх паездкі ў Бабруйск. Цяпер рэкалекцыі для новастворaных колаў праводзяць ужо не заезджыя госці, але самі магілёўскія аніматары. Безумоўна, гэта радуе, бо пашыраецца і расце добрая справа, тая, што нясе палёгку, спакой, згоду і сапраўднае шчасце многім людзям.

***І.Студзеньская***



Усе мужчыны з "хатняга Касцёла" заўсёды служаць міністрантамі.







**Іх шмат, складаных і неадкладных пытанняў, якія хвалююць нашу моладзь. Вельмі часта ад таго, наколькі правільна знойдзены адказ, залежыць будучыня хлопцаў і дзяўчат. Таму надзвычай важна, каб адказы былі правільныя, каб не было потым горкіх памылак і расчараванняў. Хто ж можа дапамагчы юнаку альбо дзяўчыне разабрацца ў іх праблемах, калі не святар? Таму весці размову з маладымі на старонках *"Ave Maria"* мы запрасілі ксяндза марыяніна Марка Жука. Кожнае лета кс. Марк праводзіць рэкалекцыі для моладзі, яму вядомыя і блізкія праблемы, што яе хвалююць. Мы ўдзячныя кс. Марку, які згадзіўся весці дыялог з нашымі маладымі чытачамі. І пачынае ён гэтую гаворку з развагаў пра надзвычай складанае паняцце - любоў.**

# Пра тое, што хвалюе

*Ксёндз Марк Жук MIC*



## ШТО Ж ГЭТА ТАКОЕ — НАША ЛЮБОЎ?

*"Любі Пана Бога свайго ўсім сваім сэрцам..."* Безумоўна, шмат разоў паўтаралі мы гэтую Божую запаведзь. Аднак ці задумваліся мы калі-небудзь над сэнсам гэтых слоў?

Святы Ян сказаў: "Хто кажа: "Я люблю Бога", а брата свайго ненавідзіць, той ілгун; бо хто не любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, якога не бачыць?" (І Ян 4, 20).

Апостал гаворыць нам пра цесную сувязь паміж любоўю да Бога і любоўю да чалавека. Больш таго, святы Ян ставіць умову: няма праўдзівай любові да Бога, калі бракуе яе да чалавека. Можна сказаць, што любоў да чалавека знаходзіцца на шляху любові да Бога. Таму ўсе мы, перажываючы высокія пачуцці да тых, хто жыве побач, вучымся любіць і самога Бога.

Неяк запытаў дзяцей у школе, ці вераць яны ў Пана Бога. "Та-а-а-ак!" — гукнулі ўсе ў адзін голас. Тады запытаў зноў: "Дзеці, але ці любіце вы Пана Бога?" Дзеці таксама адказалі станоўча. Потым мы яшчэ доўга абмяркоўвалі разам з імі, што ж гэта значыць — любіць Пана Бога? На гэтае пытанне адказаць было цяжэй. І тады я папытаў у іх: "Па чым можна здагадацца, што мы любім сваіх бліжніх?" Пасля хвіліны цішыні маленькая Кася паднялася і сказала: "Калі таты з мамай доўга няма дома — мне сумна, калі ж яны вяртаюцца дахаты — я радуюся". Ну што ж, можна быць упэўненым: гэтая дзяўчынка любіць сваіх бацькоў.

А нядаўна ў цягніку сустрэў свайго даўняга знаёмага — студэнта Янку, які вяртаўся з сесіі. Пэўны час не мог зразумець, што з ім адбылося, бо ягоны твар чамусьці змяніўся. Янка ўвесь час усміхаўся, ягоныя вочы іскрыліся нейкім незразумелым святлом. Адказ прыйшоў тады, калі Янка падзяліўся сваёй вялікай радасцю: ён сустрэў дзяўчыну, якую пакахаў. "Калі сустракаю яе — губляю адчуванне часу", — прызнаўся хлопец. "Што ж, гэта і ёсць каханне", — падумаў я.

...Станіслаў і Марыя жывуць у шлюбе ўжо дзевяты год. Люблю бываць у іхнім доме. Чамусьці, калі бываю ў іх, то адразу ўзгадваецца свой родны дом. Жывуць яны даволі сціпла, маюць чацвярых дзяцей. Не так ужо і лёгка пракарміць ды апрануць такую сям'ю. Таму Станіслаў вымушаны працаваць не толькі ўдзень, але яшчэ некалькі гадзін і ўвечары. Але ён не скардзіцца, бо і ён, і Марыя заўсёды былі перакананыя: у сям'і павінна быць столькі дзяцей, колькі дае Пан Бог.

Сапраўдная любоў не можа быць эгаістычнай. Памятаю, аднойчы Станіслаў даверліва сказаў мне: "Мая Марыя і дзеці заслугоўваюць таго, каб для іх не шкадаваць ні часу, ні поту, таму што працаваць дзеля іх — шчасце". Безумоўна, такое не скажа той, хто не кахае.

...Андрэй служыць у войску. Нядаўна прыслаў мне ліст, у якім распавядае пра цяжкасці вайсковай службы. Але не гэта галоўнае ў ягоным лісце. Мяне вельмі ўразіла, з якой цеплынёй і сардэчнасцю хлапец напісаў пра сваю маці. Ягоны тата ўжо колькі гадоў таму памёр, і Андрэй непакоіцца за сваю маці, бо ёй даводзіцца цяжка працаваць на гаспадарцы. Маці жыве ў вёсцы, і працы, вядома ж, хапае. "Не разумею хлопцаў, — піша Андрэй, — якія саромеюцца сваіх бацькоў, калі тыя жывуць у вёсцы. Вядома ж, і апранаюцца яны проста, і не надта інтэлігентныя, але хіба гэта важна? Я вельмі ганаруся сваёй мамай, нягледзячы на тое, што яна простая сялянка. Нядаўна прыязджала да мяне і столькі радасці мне прынесла! А паехала, і я зразумеў: мая мама — самы дарагі для мяне чалавек". Прачытаў гэты ліст, і пасвятлела на душы. Слаўны хлапец, гэты Андрэй! Калі б усе маці мелі такіх сыноў, як ён!..

...Не так даўно звярнуў увагу на тое, што пасля Святой Імшы ў касцёле часта застаецца адна старэнькая бабуля і доўга яшчэ моліцца. Запытаў у яе, чаго яна просіць у Пана Бога. Замест адказу пачала распавядаць пра сваіх дзяцей: дачка ўжо колькі гадоў разведзеная з мужам, сын пакутуе на алкагалізм. Калі гаварыла ўсё гэта, не магла стрымаць слёз. "Веру, — шаптала, — што прыйдзе такі дзень, калі Пан Бог выслухае мае малітвы. Я ўжо старая — чым жа дапамагу сваім дзецям, апрача малітвы?" Пасля нашай горкай размовы я таксама часта малюся за дзяцей гэтай жанчыны, асабліва тады, калі бачу яе, адзінокую, у апусцелым касцёле з ружанцам у дрыготкіх руках. Мы разам просім тады ў Пана Бога міласэрнасці да яе дзяцей. Але адначасна я не магу не радавацца, бо гэтая жанчына ўмее любіць сваіх дзяцей сапраўднай, шчырай любоўю.

Якая яна розная, чалавечая любоў, што саграве гэты сцюдзёны і часам такі няўтульны свет! Якім бы шэрым і нецікавым было нашае жыццё, калі б не было ў ім любові! Хіба ж не праўда, што менавіта на гэтым пачуцці трымаецца свет? Але, апрача натуральнай любові бацькоў да дзяцей і наадварот, кахання паміж мужам і жонкай, паміж маладымі людзьмі ёсць яшчэ і праявы надзвычайнай, ахвярнай любові. Гэтае пачуццё трымаецца на вялікай веры і часта перавышае чалавечыя магчымасці і здольнасці. Калі чалавек любіць сваіх бліжніх, ён тым самым вучыцца любіць Пана Бога. І тады ягонае жыццё асвятляецца цудоўным, надпрыродным святлом. Але пра такую любоў мы паразмаўляем у наступны раз.

*Сябры! Спадзяемся, вас зацікавіла гаворка, распачатая ксяндзом Маркам. Калі вы жадаеце прыняць у ёй удзел, выказаць сваю думку па гэтай альбо іншай тэме, запытаць пра штосьці ў кс.Марка, — дасылайце лісты ў рэдакцыю "Ave Maria". Вашыя лісты могуць стаць цікавай тэмай для наступных гутарак кс.Марка, якія будуць адрасаваныя менавіта вам, моладзі.*

## "МНОГІЯ ПРЫЙДУЦЬ ПАД ІМЕМ МАІМ..."

Супольнасць Яна Хрысціцеля дзейнічае на Беларусі ўжо пяць гадоў. Часта яна арганізоўвае курсы евангелізацыі — курс Філіпа, Паўла і г.д. У асноўным у супольнасць прыходзіць моладзь, якая нядаўна пачала наведваць касцёл, а то і ўвогуле не ходзіць у яго. Мне таксама надарылася магчымасць пабыць на курсах, а пасля і паўдзельнічаць у сустрэчы з самім заснавальнікам гэтага моладзевага руху — айцом Рыкардам. Перажыўшы ўсё гэта, пасля доўгіх малітоўных развагаў я вырашыў падзяліцца сваімі думкамі з чытачамі, найперш, маладымі, часопіса "Ave Maria".

Курсы Філіпа. Мы прыязджаем у в.Хацешына, заходзім у хату, дзе, відаць, нас ужо чакаюць. Пачынаюцца курсы. Некалькі спеваў, чытанні з Бібліі. Спевы адбываюцца пад гітару, з прытанцоўваннем. Нязвыкла, ну але што ж: можа і так трэба праслаўляць Пана Бога? Выходзім на вуліцу — тое ж самае: песні, танцы... Да таго, як я сюды прыехаў, мяне папярэджвалі: не палохайся, калі ўбачыш нешта незвычайнае. Але незвычайным тут было ўсё.

Па-першае, мяне вельмі здзівіла, што на курсах не было ніводнай духоўнай асобы, усе спатканні праводзілі свецкія. Больш таго, гэтыя спатканні праводзілі мае равеснікі, хлопцы і дзяўчаты па 20—25 гадоў. Што яны маглі паведаміць мне такога, чаго б я не чуў раней у касцёле? "Бог цябе любі-і-і-і-іць!" Вось што я пачуў шмат разоў у часе курсаў і не збіраюся гэтае сцверджанне аспрэчваць. Кожная Святая Імша — бясконцая Яго любоў да нас. Пра гэта я чуў і чытаю ў Евангеллі. На курсы ж я, выходзіць, прыехаў, каб шырэй пазнаць Яго любоў?

"Бог цябе любі-і-і-іць..." Я глядзеў на моладзь: яны стаялі, заплюшчыўшы вочы, узняўшы ўверх рукі і, робячы хвалепадобныя рухі, бубнілі: "Хвала, хвала, хвала. Слава Табе, слава..." Мне раптам узгадаліся





сеансы Кашпіроўскага ці якога іншага парапсіхолага, калі ён прымушаў здаровых маладых людзей губляць кантроль над сабой, губляць сваё "я" і ператварацца ў біяробатаў. Людзі шукаюць Бога. Напэўна ж, яны знайшлі Яго. Але якога? Ды хто пра гэта дбае? Галоўнае — Бог знойдзены і... "Ён цябе любі-і-і-іць..."

Святая Імша. Знарок дзеля таго, каб яе правесці, сюды прыехаў святар. Але... Што бачу я? Да алтара падыходзяць у часе Святой Імшы свецкія асобы і п'юць з келіха Хрыстову Кроў!.. А Цела Хрыста некаторыя бяруць у рукі... О Пане, што адчуваеш Ты ў гэтую хвіліну?!

Здзівіла, што ні разу за гэтыя дні я не пачуў імя Маці Божай. Выпадкова гэта альбо не? А яшчэ вельмі ўразіла тое, што, аказваецца, у касцёл не абавязкова часта хадзіць, дастаткова таго, што наведаеш яго зрэдку, галоўнае — хадзіць на сустрэчы супольнасці. Асноўная тэза курсаў: "Рабіце прамымі свае сцежкі. Навяртайцеся. Хутка ўжо канец свету". Не раз і не два мы ўжо чулі гэткія прадказанні, нават даты абвяшчаліся. Да прыходу Хрыста мы павінны быць гатовыя, але ці падрыхтуемся, калі толькі будзем, заплюшчыўшы вочы, спяваць: "Бог цябе любі-і-і-іць"? І няўжо дзеля таго, каб гэта ўсвядоміць, трэба абавязкова ламаць не намі ўстаноўленыя традыцыі Касцёла? Ці не забыліся мы, што Бог не падуладны часу і модзе? Ён такі самы, якім быў тысячы і тысячы гадоў таму, якім будзе заўтра альбо праз тысячу гадоў. Дык што, для аднаго пакалення Бог адзін, а для другога будзем прыдумваць іншага?

Чамусьці нашы бабулі і дзядулі не ламалі традыцыяў Касцёла, але жылі, наследуючы іх. Ім не трэба было праслаўляць Бога, заплюшчыўшы вочы, прытанцоўваючы. Але вось жа зберaглі веру і нам перадалі. А як мы цяпер захаваем гэты скарб, які перададзім яго нашым наступнікам?

Напэўна, мы адчулі сябе вельмі вольнымі. Мы нібы ап'янелі ад гэтае волі і не заўважылі адначасна, як патрапілі ў няволю да моды...

Сустрэча ў Мінску з айцом Рыкардам. На яе прыехала моладзь з розных куткоў Беларусі. І што ж я ўбачыў тут? Усё тое ж. Тыя ж спевы, тыя ж танцы. Толькі яшчэ ў дадатак, каб ужо ніхто не сумняваўся, — некалькі раптоўных аздараўленняў. Мяне потым пераконвалі некаторыя мае апаненты: "Вось бачыш — ён нават аздараўляе!" Ой, колькі мы іх бачылі — аздаравіцеляў — за апошні час! Парапсіхолагі, экстрасенсы таксама аздараўляюць. А можа, іншы раз і калечаць людзей, умешваючыся ў іх псіхіку, у іх прыроду? Міжволі ўзгадваюцца словы Хрыста: "Многія скажуць Мне ў той дзень: "Пане, Пане! Ці не Тваім іменем мы прарочылі? І ці не Тваім іменем выганялі дэманаў? І ці не Тваім іменем многія цуды чынілі?" І тады скажу ім: "Я ніколі не ведаў вас; адыдзіце ад Мяне вы, што чыніце беззаконне" (Мц 7, 22-23).

Часта можна пачуць: "Трэба працаваць з моладдзю". Вядома, трэба. Але хіба дзеля гэтага абавязкова ламаць традыцыі? Хіба мы лепш праславім Бога, калі ў часе Святой Імшы будзем выкрыкваць нейкія словы, хадзіць туды-сюды, набліжацца да алтара і піць з келіха Яго святую Кроў? Дзеля чаго ж тады святар пры алтары? Як на маю думку, дзеля таго, каб несці Хрыста людзям. Несці з пашанай, любоўю, выклікаючы ў іх тыя ж пачуцці.

Узгадваецца святы Ян Боска. Ён смела і адважна вёў за сабою моладзь да Хрыста. І дзеля гэтага яму не спатрэбілася ламаць векавечныя традыцыі Касцёла. Ён не падладжваўся да патрэбаў моладзі, але паказваў ім прыклад сваёй ахвярнасці, верай. Другі прыклад — маці Тэрэса з Калькуты. Сваім жыццём яна паказала нам, як магчыма ўвасабляць у жыццё Божыя запаведзі. Не прыгожа гаварыць пра іх, але жыць па іх і несці дабро людзям. Гэтая мужная жанчына паказала дваццатаму стагоддзю, як трэба несці крыж Хрыста. Але што нам маці Тэрэса? Што нам, зрэшты, і цяжар крыжа? "Бог цябе любі-і-і-іць".

Так, Ён нас любіць. Але чым мы адказваем Яму на Яго любоў? Песнямі ды танцамі? Плясканнем у ладкі? Давялося пачуць на курсах: "Бог не памятае грэху чалавека. Дастаткова толькі прызнацца ў ім на споведзі". Во яно як аказваецца! Што ж тады робяць душы ў чысцы? І наогул ён увогуле, калі Пан Бог не памятае нашых грахоў? Але што нам нейкі там чысцец! "Бог цябе любі-і-і-іць!" Маці Тэрэса не спявала гэткіх песенак. Яна проста не мела на гэта часу. Яна несла Божую любоў людзям, тым, што жылі побач і цярпелі бядоту. Але што ж... Маці Тэрэса памерла. А мы... Мы жывем і цешымся з таго, што Бог любіць нас. Мы збіраемся сваімі купкамі — спяваем, заклікаем Святога Духа. Нам добра. І ці кожны думае: калі на наш заклік і прыйдзе Святы Дух, то што ж мы будзем рабіць далей? Гэтаксама і далей спяваць, заплюшчыўшы вочы ды хістаючыся ў бакі? А побач наша зямля, што патанае ў бедах... Якую адказнасць мы чуем у сабе за яе будучы лёс? За лёс тых, што нараджаюцца цяпер на свет ці народзяцца потым? За лёс тых, каму наша смелае пакаленне часта проста не дае магчымасці нарадзіцца?.. Пытанні, пытанні, пытанні... Дзе знайсці на іх адказы? Можна было б махнуць на ўсё рукой, заплюшчыць вочы і заспяваць разам... Ды ад сваёй зямлі і ад яе бедаў, праблем не ўцячэш. Тут айцец Рыкарда не дапаможа. І тое шчаслівае адчуванне, што Бог цябе сапраўды любіць, павінна толькі павялічваць гэтую адказнасць, узмацняць нашу малітву, адданасць Богу ў вялікім і малым.

А мода... Мода праміняецца, і што ўспомнім мы пасля? Няўжо толькі гэтыя песенькі ды скокі?

***Аляксандр Адамковіч***

# ЧАРГОВАЕ СПАТКАННЕ Ў ЛАЗДУНАХ



З 26 ліпеня па 2 жніўня ў в. Лаздуны (Іўеўскі раён) праходзіла чарговае спатканне моладзі. Ксёндз Мар'юш Ільяшэвіч праводзіць іх кожную вясну, лета і восень, пачынаючы з 1994 года. На гэты раз каля 300 юнакоў і дзяўчат з розных куткоў Беларусі сабраліся, каб супольна маліцца, узрастаючы ў сваёй веры.

Праграма гэтага маладзёжнага злёту была вельмі насычанай і цікавай. Асабліва ўзрушыла юнакоў і дзяўчат канферэнцыя па абароне жыцця ненароджаных дзяцей, якую правялі прадстаўнікі фонда "Маці Божая Фацімская". Незабыўным было спатканне са спадаром Конрадам Шмідтам, які спецыяльна прыехаў з Германіі. Духоўны шлях гэтага чалавека быў няпросты — ад пратэстанта да адданага каталіка. Сведчанне веры Конрада Шмідта вельмі многім дапамагло ў пошуку ісціны. Трэба зазначыць, што сярод моладзі было нямала і тых, хто называў сябе слабаверуючымі.

Знамянальнай падзеяй амаль усе юнакі і дзяўчаты назвалі прыезд да іх на спатканне ксяндза-законніка з ордэна св.Тамаша, што ў Індыі, айца Захарыя Тудзіппара і законнай сястры з той жа краіны Маргарэт Валаппіла. Шмат непаўторных і незабыўных хвілін падаравалі далёкія госці ўсім прысутным на спатканні. Вечарам каля вогнішча моладзь дзялілася сваімі ўражаннямі, перажываннямі. Сведчанні веры, хутчэй нават сапраўдныя споведзі некаторых з іх, мяркую, зацікавяць нашых чытачоў.

***Галіна Калевіч***



Госці з Індыі: а.ЗахарыяТудзіппара, с.Маргарэт Валаппіла

## *"Я шмат разоў здраджваў Богу..."*

На гэта спатканне ў Лаздуны я не збіраўся, нават нічога не ведаў пра яго. А трапіў сюды, дзякуючы сябру.

Першы дзень у Лаздунах мне было неяк не па сабе. Адчуваў сябе тут чужым і непатрэбным. Стаў больш маліцца. Раптам пасля адарацыі Найсвяцейшага Сакраманта — азарэнне, на душы спакой і лагода. Адчуваў неверагодную ласку Божую, якая мацнела з дня на дзень. Падчас канферэнцыі па праблеме абароны ненароджаных дзяцей зразумеў, што павінен таксама дзейнічаць, не маю права быць пасіўным каталікам. Адчуваў, што ў мяне з'явіліся крылы. Вельмі ўдзячны ўсім, хто мяне акружаў, асабліва законнай сястры з Індыі Маргарэт. Яна мне вельмі дапамагла ў некаторых духоўных пытаннях. Шчыра скажу: маю шмат праблем, а мой шлях да веры вельмі няпросты. Я тройчы судзімы. І шмат разоў здраджваў Богу.

Нарадзіўся я ў атэістычнай сям'і. Бацькі да гэтага часу нават не ахрышчаныя. Памятаю з дзяцінства абраз Пана Езуса ў бабулі. Я ўжо тады паверыў, што Бог ёсць. Калі было цяжка, прасіў: "Божа, памажы". Калі было ўсё добра, не ўспамінаў пра Бога... Калі мне было 17 гадоў, мы з хлопцамі залезлі ў цырульню. Грошай там не аказалася. Але я сваё атрымаў — 3 гады ўмоўна. Хутка сарваўся і ўжо сеў на 3 гады ў дзіцячую калонію ў Бабруйску. Пасля таго як споўнілася 18, перавялі ў зону для дарослых. Вось тут я спазнаў усе жахі гэтай установы. Стаў прасіць Бога, каб дапамог выжыць. Не ведаў ніводнай малітвы, прасіў сваімі словамі. І што дзіўна — адразу адчуў Божую дапамогу. У знак падзякі вырашыў кінуць курыць. Абяцаў, што ніколі не буду піць спіртнога.

Памятаю, перад тым як выйсці з турмы, убачыў сон. Нібыта я каля свайго дома. Раптам — святло, бачу Езуса Хрыста ў воблаку. Ад шчасця я пачаў крычаць: "А казалі Бога няма! Глядзіце, глядзіце ўсе!"

Шчаслівы, я выйшаў з турмы з намерам жыць з Богам. Пайшоў у царкву, ахрысціўся (мне тады было ўсё роўна, дзе гэта зрабіць). Уладкаваўся на працу. Там адна выпіўка, другая, пасля – бойка. І зноў турма. Там упершыню мне трапіла ў рукі Евангелле. Я ўзяўся чытаць яго. Амаль нічога не разумеў, але адчуў, што прыемнае святло напаўняе душу і супакойвае...

Выйшаў з турмы ўжо з наглядам — пасля сямі гадзін вечара сядзець дома. Ізноў не вытрываў. Віно, дзяўчаты... І вось наша кампанія ўганяе машыну. Працверазіўшыся, падумаў з жахам: зноў турма. І зноў стаў прасіць Бога аб дапамозе. Купіў першую ў сваім жыцці Біблію ў ілюстрацыях. Натхнёна чытаў. У гэты час сустрэў дзяўчыну, у якую закахаўся. Яна – таксама. Я ёй расказаў пра сваё мінулае, але яе гэта не напалохала. Мы вырашылі пажаніцца. Але... Міліцыя знайшла тых, з кім я ўганяў машыну. Сваёй каханай я сказаў, што давядзецца развітацца. Яна – у слёзы, кажа, што хоча быць маёю жонкаю. У ЗАГС ісці мы баяліся — тады мяне хутчэй бы злавілі. І вось дзіва. Гуляючы па лесе, сустрэлі хлопца, які ішоў з Будслава з пілігрымкі. Разгаварыліся. Ён расказаў пра касцёл, пра каталікаў... Мы вырашылі ўзяць шлюб у касцёле. Ксёндз Яраслаў падрыхтаваў нас да гэтага Сакраманту. Тут я даведаўся пра цудоўную малітву на ружанцы. Пачаў маліцца. І калі зноў трапіў у следчы ізалятар за гэту злашчасную машыну, то не выпускаў з рук ружанца... Маліўся цэлымі днямі, прасіў Бога злітавацца над такім няверным Яго сынам. Адзін з хлопцаў зацікавіўся гэтай малітвай. У хуткім часе зрабіў сабе ружанец з хлеба і мы разам пачалі маліцца. Не паверыце (я сам адразу не паверыў): на судзе мне далі 2 гады ўмоўна з вылічэннем штомесяц 20% з зарплаты. Вызвалілі тут жа пасля суда.

Пасля вяртання дадому я зноў згубіў цікавасць да Бога. І раптам паведамленне: пракурор падаў апеляцыю ў вышэйшыя судовыя інстанцыі з-за таго, што мой прысуд неапраўдана мяккі, і мне далі 3 гады ўзмоцненага рэжыму. Дома – істэрыка, я – у роспачы...

І вось я зноў у Оршы, у тым жа атрадзе, дзе і быў. На шчасце, побач аказаўся веруючы чалавек, пяцідзесятнік. Мы чыталі Біблію, разам маліліся. Здавалася, нарэшце я знайшоў ісціну і ўжо ніколі не адступлюся. Памятаю, радаваўся як дзіця ўсяму, што адбывалася ў маім духоўным жыцці. І калі мой сябар сказаў мне спаліць абразік Маці Божай, бо святыя абразы па веры пратэстантаў з'яўляюцца рэлігійнымі ідаламі, я пайшоў на гэта не задумваючыся. І толькі тады, калі, падпаліўшы абразік, убачыў, што ён не гарыць, скалануўся... Сябар супакойваў мяне, і хутка ўсё забылася. Я быў упэўнены ў правільнасці менавіта пратэстанцкай веры.

З Божаю дапамогаю я адсядзеў свой тэрмін. Дома мяне чакалі жонка і сын. Найперш я пайшоў у касцёл, каб навучыць "розуму" сваіх сяброў каталікаў, якія, па маіх пратэстанцкіх уяўленнях, памыляюцца ў веры ў Бога. Мне хацелася раскрыць ім вочы на праўду. Ксёндз Юзаф уважліва выслухаў мяне, а потым з любоўю пачаў гаварыць пра Тую найбольш годную з жанчын, праз Якую ў свет прыйшоў Збаўца. Жанчына, Якая нарадзіла Сына Божага, няўжо Яна не заслугоўвае пашаны?! Яна не толькі Маці Езуса Хрыста, Яна і наша Маці. Паміраючы на крыжы, Езус аддаў нас Ёй у апеку, а Яе даў нам за Маці. Зрабіў Ён гэта праз свайго вучня Яна. І што ж тут неадпаведнага, калі мы звяртаемся да Багародзіцы: "Святая Марыя, Маці Божая, маліся за нас грэшных..."? Мы ж часта просім блізкіх ці знаёмых людзей памаліцца за нас. Дык чаму мы не павінны прасіць аб гэтым Маці нашага Збаўцы?!.. Размова працягвалася доўга. Я ўспомніў, якую моц і ласку атрымліваў, калі маліўся на ружанцы. На душы стала спакойна і светла. Я застаўся ў касцёле...

У сямейным жыцці не ўсё складвалася гладка. Я доўгі час не мог знайсці працу. Стаў маліцца ў гэтай інтэнцыі. І вось мяне ўзялі на сезонную працу ў кацельню (суткі працаваць, а двое — дома). Уражанні ад першага дня працы былі жахлівыя. Нават турма здавалася не такой страшнай. Уявіце: ноч, ты адзін каля вялізнай печы, якая бясконца патрабуе вугалю. Я, увесь чорны, мокры, кідаю яго і кідаю... Здаецца, канца не будзе. Тут я для сябе вырашыў, што гэта мой першы і апошні працоўны дзень у гэтай качагарцы. Дахаты прыйшоў ледзь жывы, спаў цэлыя суткі. Наступныя суткі думаў, як сказаць жонцы, што туды я больш не пайду. Але мужчынская годнасць узяла верх, і я зноў пайшоў, хаця для мяне гэта было сапраўдным пеклам. Дарэчы, пра пекла я там і ўспомніў, бо вельмі ж усё нагадвала яго. Я не хацеў тут часова папрацаваць за грошы. А не дай Божа вечнае пекла! Мароз пабег па скуры. Я дапрацаваў сезон. І вось іду ў апошні дзень з працы з сумным настроем — я беспрацоўны. Амаль не ўпаў у адчай. Але ўзяў сябе ў рукі, кажучы: у мяне ёсць самы лепшы памочнік — Езус Хрыстус. Пачаў маліцца каронку да Божае Міласэрнасці. І вось цуд! Сустракаю сябра (таго, якога некалі спаткаў, калі ён ішоў з пілігрымкі). Сябра сказаў, што шукаў мяне, каб прапанаваць працу ў сябе на заводзе. Вось там я сапраўды аджыў. І матэрыяльна стала значна лягчэй. Дзякуй Найвышэйшаму Пану!

Аднак, відаць, не бывае ў гэтым жыцці без праблем. Жонка пачала забараняць мне хадзіць у касцёл. Кажа: маліся дома. Даходзіць да скандалаў. Аднойчы не вытрываў: пайшоў да сябра, а адтуль — у Лаздуны. На гэтым спатканні я многа малюся за сям'ю. А сёння рашыўся пазваніць дахаты. Жонка сказала, што вельмі чакае мяне, што ўсё ў нас будзе добра. Я таксама веру ў гэта, веру ў вялікую Божую міласэрнасць і больш за ўсё хачу быць вартым яе.



СКАРБЫ СВЯТОЙ ДУМКІ

# СВЯТАЯ КАЦЯРЫНА С'ЕНСКАЯ, ДОКТАР КАСЦЁЛА

**Святая Кацярына нарадзілася 25 сакавіка 1347 г., памерла ў Рыме ў красавіку 1380 г. Папа Рымскі Пій II кананізаваў яе 26 чэрвеня 1461 г., а Пій XII у 1939 г. абвясціў апякункай Італіі, разам з Францішкам з Асізі. 4 кастрычніка 1970 г. Павел VI абвясціў гэтую "пакорную і мудрую дамініканку" Доктарам Касцёла. Касцёл быў для яе сапраўднай Маці, якой трэба падпарадкоўвацца з поўнай пашанай. Найвышэйшы Пастыр Касцёла — Папа Рымскі — быў для яе "Хрыстом на зямлі". Яна служыла яму і дапамагала сваім аскетычным і містычным досведам, а таксама выбітнымі тэалагічнымі працамі, якія не страцілі сваёй значнасці да нашых дзён.**

## ПРА СВЯТАРСТВА

*Урывак з кнігі "Дыялог"*

О найдаражэйшая дачка!..

Яны з'яўляюцца маімі памазаннікамі, і Я называю іх маімі Хрыстамі. Я даручыў ім раздаванне Мяне самога вам. Змясціў іх, як пахучыя кветкі, у містычным целе святога Касцёла. Гэткай годнасці не мае нават анёл, а Я даў яе людзям, тым, якіх выбраў на сваіх дарыцеляў. Я ўчыніў з іх анёлаў, таму яны павінны быць у гэтым жыцці зямнымі анёламі.



Ад кожнай душы Я патрабую чысціні і любові, жадаю, каб яна любіла Мяне і бліжняга, каб па магчымасці дапамагала яму ў патрэбе, падтрымліваючы малітвай і яднаючыся з ім у любові, як ужо казаў табе ў іншым месцы. Але нашмат больш чысціні Я жадаю ад Маіх святароў, любові да Мяне і да бліжніх, якім яны павінны раздаваць Цела і Кроў Адзінароднага Майго Сына з палымянай любоўю і прагай збаўлення душаў дзеля хвалы і славы Майго імя.

Як святары жадаюць чысціні келіха, у якім спаўняецца ахвяра, так і Я вымагаю чысціні, высакароднасці іх сэрцаў, іх душаў, іх думак. І хачу, каб яны захоўвалі сваё цела — прыладу душы — у дасканалай чысціні; жадаю, каб яны не валяліся ў нячыстым балоце, каб не надзімаліся пыхай, клапоцячыся пра высокае становішча, каб не былі жорсткімі да саміх сябе і да сваіх бліжніх. Бо калі праз свае грахі яны будуць жорсткімі да саміх сябе, то тым самым яны будуць жорсткімі і да сваіх бліжніх душаў, не даючы ім асабістага прыкладу, не імкнучыся вырваць іх з рук д'ябла...

Хачу, каб святары былі шчодрыя ды не скваппыя, каб яны не прадавалі з прычыны сваёй хцівасці і скваппасці Маёй ласкі Святога Духа (пар. Дз 8, 18-20). Нельга ім гэтага рабіць, і Я не хачу, каб яны гэта рабілі. Тое, што маюць, яны атрымалі як дар ад шчодрай любові Маёй дабрыні. Таму яны таксама бясплатна, шчодрым сэрцам, з любові да хвалы Маёй і збаўлення душаў, павінны літасціва даваць гэта кожнаму разумнаму стварэнню, якое пакорліва просіць таго. Не павінны жадаць за гэта заплаты, бо нічога не купілі: усё атрымалі бясплатна ад Мяне, каб раздаваць іншым. Але яны могуць і павінны прымаць міласціну; яна належыць ім ад таго, хто прымае сакрамэнт і хто абавязаны, калі можа, прынесці ахвяру, каб падтрымаць іх у зямных патрэбах. На вас ляжыць абавязак матэрыяльнай падтрымкі тых, хто раздае вам духоўны спажытак, ласкі, дары Святога Духа ў святых сакрамэнтах. Бо Я ўстанавіў іх у святым Касцёле, каб служылі збаўленню вашаму (пар. 1 Кар 9, 11).

Кажу вам, што Я даю вам непараўнальна больш, чымсьці вы даяце ім. Бо не можа быць параўнання паміж рэчамі, якія маюць свой канчатак і якія прамінаюцца, якімі вы іх падтрымліваеце, і Мной, бясконцым Богам, якога Я Маёй прадбачнасцю і Маёй Божай любоўю наказаў ім раздаваць вам. Гэта тычыцца не толькі гэтай містэрыі, але і кожнай духоўнай ласкі, якая калі-кольвечы і праз якое-кольвечы стварэнне была выпрашана вам — малітваю альбо іншым чынам. Усе вашыя зямныя багацці нельга параўнаць і не могуць быць параўнаныя з дарамі, якія вы атрымліваеце духоўна. Яны не вытрымліваюць з імі параўнання.

Скажу табе таксама, што ахвяры, якія ім прыносіце, мае святары павінны раздзяліць на тры часткі: адну ўжыць на свае асабістыя патрэбы, другую прызначыць для бедных, трэцюю аддаць Касцёлу — на неабходныя рэчы. Чынячы інакш, яны абразілі б Мяне.







У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ



# Свята надзеі

*Менавіта так можна назваць тую ўрачыстасць, што адбылася ў Вільні ў апошнюю нядзелю жніўня. А нагодаю для яе стала рэкансэкрацыя касцёла святога Барталамея, які знаходзіцца ў цэнтральнай частцы прадмесця Ужупіс (Зарэчча) літоўскай сталіцы. Рэкансэкрацыю правёў арцыбіскуп Віленскай архідыяцэзіі Аўдрыс Бачкіс.*

*Цэлае паўстагоддзе гэта святыня была пазбаўлена годнасці Дому Божага і служыла майстэрняю мясцовым дзялкам ад скульптуры ў савецкі час і, што самае крыўднае, усе восем гадоў незалежнасці Літвы. Зусім блізка, можна сказаць, па-суседству з цудам віленскай готыкі — з касцёлам святой Ганны — гэты старажытны касцёлік з надзвычай багатаю і цікаваю гісторыяй цярпліва чакаў свайго часу. Праўда, некалькі гадоў таму Віленская курыя і епіскапат Літвы прапанавалі яго беларускай каталіцкай грамадзе Вільні, але "кватаранты", што атабарыліся пад дахам святыні, не звярталі ўвагі ні на якія ўказы касцёльнай іерархіі.*

*За касцёл трэба было змагацца. І каб выйграць гэтае змаганне, якое працягвалася ўсю вясну і лета, спатрэбіліся вялікая вера, сіла і энергія як саміх вернікаў, так і рэктара гэтага касцёла ксяндза Яна Шуткевіча. Сталася так, што багаты вопыт змагання за святыні, за вяртанне іх да жыцця і да іх святой прыналежнасці, які ксёндз Ян набыў за паўтара дзесяцігоддзя свайго святарскага служэння на Беларусі, прыдаўся яму і ў дэмакратычнай незалежнай Літве. Гэты вопыт дапамог арганізаваць і з'яднаць у адзіную хрысціянскую супольнасць людзей розных нацыянальнасцяў. Літоўцы, палякі, беларусы як адна сям'я штовечара маліліся пад зачыненаю брамаю за вяртанне свайго касцёла. Была на тое воля Божая і вялікая ласка, каб людзі, молячыся пад голым небам, а не раз і пад праліўным дажджом, вучыліся талерантнасці і ўзаемапавазе, знаходзілі ўзаемапаразуменне і разам узрасталі ў веры, усведамляючы, што для сапраўднага верніка і католіка найважнейшы ёсць Хрыстус і Ягоная запаведзь любові да Бога і да бліжняга. Несумненна, ва ўсім дапамагаў вернікам прыклад іх святара, яго нязломная воля і яго пастырскае слова...*



Касцёл св.Барталамея ў Вільні

*Сімвалічным зда-*



Металічныя рэйкі ў святыні ўсё яшчэ нагадваюць пра перажытае.

ецца сёння той факт, што касцёл святога Барталамея, у якім упершыню ў Вільні за ўсе пасляваенныя дзесяцігоддзі загучала слова Божае па-беларуску, быў у свой час узведзены пры старажытным Полацкім шляху: у XV—XVII стст. праз Зарэчча вялі галоўныя дарогі на Усход, у Полацак. Сімвалічна і тое, што зямлю пад адбудову касцёла св. Барталамея (яго першапачатковы будынак згарэў у часе вайны з Расеяй у другой палове XVII ст.) ахвяраваў амаль трыста гадоў таму наш зямляк, землеўладальнік з Ашмянскага павету Я.Райскі. Праўда, цяпер хіба толькі муры святыні, кранутыя часам, але ўсё такія ж узнёслагодныя, могуць пацвердзіць тыя скупыя гістарычныя факты, у якіх нам хочацца сёння бачыць новы сімвалічны змест. І ўсё ж самае важнае, што ў чарговы раз на гэтай зямлі перамагла вера, перамог Хрыстус, як і калісьці выгнаўшы "мянялаў" з Дому свайго Айца. І вернікі Вільні прыгожа і



Першая Святая Імша ў дзень рэкансэкрацыі.



Малітва перад уваходам у святыню.







Пачатак урачыстасці



Пакрапенне люду Божага.

ўрачыста святкавалі гэтую перамогу. Наперадзе ў іх яшчэ шмат працы па рэстаўрацыі касцёла, бо яго аблічча за гэтага паўвеку бязбожнага кватаравання па-варварску знішчана і апаганена. Здавалася б, столькі ўжо бачана збыткавання з нашых святыняў, а ўсё роўна сціснулася сэрца, калі вочы натыкнуліся на пракладзеныя праз увесь касцёл металічныя рэйкі, па якіх гэтулькі гадоў хадзіла тут ваганетка. Вернікі ўслалі іх кветкамі. Кветкі былі скрозь. Здаецца, расцвіталі яны ў душах тых, хто сабраўся 30 жніўня на свята рэкансэкрацыі святыні, якое спраўды стала святам надзеі. Найперш для католікаў-беларусаў Вільні, што спакон веку жывуць на гэтай зямлі. Яны нарэшце маюць магчымасць слухаць слова Божае на сваёй роднай мове. Дай жа Бог, каб гэтая магчымасць была спаўна імі выкарыстана.

*К.Гурская*
*Фотаздымкі А.Клешчука*



"Пане, змілуйся над намі..."

# Не дарэмна кроў была праліта



Гэтая трагедыя здарылася ў Полацку вельмі даўно, у той час, калі "бацьку гарадоў беларускіх" наведаў сам рускі цар Пётр І. Тады расейскі самадзержац увайшоў са сваёю світаю ў Сафійскі сабор і ўчыніў там крывавую расправу. Пяць манахаў базыльянаў былі ім замучаныя, пасечаныя мячом за тое, што адмовіліся адкрыць на здзек цару мошчы святога Язафата Кунцэвіча. Таго самага, які некалі быў біскупам Полацка і якога праціўнікі аб'яднанная хрысціянаў па-зверску забілі ў Віцебску. У часы Пятра І цела гэтага мучаніка за Хрыстову веру спачывала ў Сафіі. І вось цар пажадаў яшчэ раз паздзекавацца з пакутніка. Але насуперак ягонаму самадурству ў 1705 г. паўсталі пяць сціплых манахаў базыльянаў: архімандрыт Якуб Казіноўскі, айцец Мялецій Кандратовіч, прапаведнік Феафан Кальбячынскі, вікары Канстанцін Зайкоўскі, рэгент саборнага хору Якуб Кнышэвіч. Паўсталі і... загінулі самі, не здрадзіўшы сваёй веры і святой памяці Язафата Кунцэвіча. Іх целы спалілі, а попел развеялі над Дзвіною. Такі быў загад Пятра І, які не жадаў, каб магілы мучанікаў сталі месцам паломніцтва.

Хто памятае цяпер гэтую жудасную гісторыю? Экскурсаводы часцей распавядаюць пра невялічкі дамок у Полацку, у якім начаваў цар. Пра крывавую ж разню, учыненую высокім госцем у Полацку, успамінаецца чамусьці без асаблівае ахвоты.

Ды ўсё ж ёсць людзі, якія берагуць памяць пра полацкіх мучанікаў. Гэта вернікі грэка-каталіцкай царквы святой Параскевы ў Полацку. Вось ужо чатыры гады яны арганізуюць пілігрымкі з Віцебска ў Полацк, прысвечаныя памяці пяці полацкіх мучанікаў. Адбылася гэткая пілігрымка і сёлета. Нешматлюдна. Але з глыбокім сэнсам. У ёй прынялі ўдзел грэка-католікі з розных куткоў Беларусі. На сваім шляху пілігрымы ладзілі сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, у часе якіх ішла гаворка пра хрысціянскую веру.



У Полацку ж пілігрымы як заўсёды найперш прыйшлі да сценаў маўклівай сведкі даўняй трагедыі — святой Сафіі. Парадокс сучаснага Полацка ў тым, што няма ў горадзе храма святой Сафіі, але затое ёсць канцэртная зала "Сафійскі сабор". Перад ягонымі замкнёнымі дзвярыма, як і кожны год, маліліся пілігрымы за беларускі народ: "Сусветны Валадару, спрадвечны Божа, Ты ўвесь свет стварыў і законы для яго ўстанавіў... Пашлі беларускаму народу ахвярных слугаў сваіх, якія праведным, сумленным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б яго да лепшае долі... Блаславі нашыя сем'і, каб у кожнай з іх дбайны бацька і ахвярная маці, злучаныя шчырай, святой любоўю, выхоўвалі Табе на славу, а Бацькаўшчыне на карысць сваіх дзетак..."

У завяршэнне малітваў перад замкнёнаю ды маўкліваю Сафіяй — "Магутны Божа". Гэты рэлігійны гімн, здаецца, увабраў у сябе ўсе нашыя просьбы да Бога, усе надзеі і спадзяванні. Ён малітоўна ўзлятае да вежаў Сафіі і ўзнімаецца над ёю — вышэй ды вышэй, туды, куды скіраваныя імкненні вернікаў нашай зямлі: і тых, што жылі ў часы крывавых распраў над хрысціянамі, і тых, што жывуць на ёй цяпер.

Пілігрымы зноў выпраўляюцца ў дарогу. Засталося ўсяго нейкіх пяць кіламетраў — да грэка-каталіцкай царквы святой Параскевы, якая нядаўна пабудавана на ўскрайку старажытнага Полацка. Крыж займае месца ў галаве калоны, і пілігрымы вырушаюць у дарогу. Ідзем па старасвецкіх вулках Полацка, і мне нечакана ўзгадваецца яшчэ адна амаль аналагічная трагедыя, пра якую палачане таксама ведаюць вельмі мала. Зрэшты, яна стала вядомая зусім нядаўна, дзякуючы расейскай даследчыцы Ірыне Восіпавай. Ксёндз Язэп Лук'янін, ураджэнец Дзвінскага павета Віцебскай губерні, які пасля 1917 года служыў у Полацкім касцёле і які воляй лёсу стаў апошнім полацкім каталіцкім святаром. 7 жніўня 1922 года ён быў арыштаваны за тое, што **адмовіўся прысутнічаць на ўскрыцці мошчаў святога Андрэя Баболі**. Як усё ж балюча часам паўтараецца наша гісторыя! Ксяндза Язэпа Лук'яніна некалькі разоў арыштоўвалі і выпускалі з турмы — то з прычыны хваробы, то пасля апраўдання судом. Пасля ж таго, як ён быў высланы ў Салавецкі лагер, вызваленняў больш не было. А 3 лістапада 1937 года разам з групай каталіцкіх святароў ён быў расстраляны. (Звесткі ўзяты з кнігі Ірыны Восіпавай "В язвах своих сокрой меня...", М., 1996 г.)

Неяк давялося пачуць ад аднаго святара: "Зямля, якая так шчодра паліта пакутніцкай крывёю, не можа не даць пладоў духоўнасці".

..."Ісусе, Сыне Божы, памілуй нас", — мерна, у такт крокам моляцца пілігрымы. Сярод звыклага вуркатання машын, здзіўленых, а то і сполашных позіркаў сустрэчных палачанаў гэтая ціхая малітва, што паўтараецца яшчэ і яшчэ раз, як пошум хваляў Дзвіны, якія праплываюць, аддаляюцца, але не знікаюць, бо не знікае сама Дзвіна. І як жа не ўзгадаеш тут красамоўныя словы летапісца: "Дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель..."

Пасля малітваў у драўлянай утульнай грэка-каталіцкай царкве святой Параскевы запытала ў айца Пахомія, ці было штосьці адметнае ў сёлетняй пілігрымцы. Ён адказаў:

— Ведаеце, кожная пілігрымка — гэта Божая дзея. Кожнай пілігрымкай кіруе Божы Дух, а Ён не можа паўтарацца. Ён заўсёды пасылае ўдзельнікам дзеі штосьці новае. Мяне парадавала тое, што ўсе пілігрымы шчыра маліліся, ахвяравалі Богу сваю стому і боль, свае радасці і беды. Пасля некалькіх дзён малітваў, роздуму над праўдамі хрысціянскае веры, разважанняў над гістарычным шляхам нашага народа вельмі хочацца пажадаць маладым людзям, каб яны не заглушалі ў сваіх душах Божы голас. Нашай зямлі вельмі не стае святароў, манахаў, людзей, якія б верна і аддана служылі Богу, вымольваючы ў Яго ласкі для Бацькаўшчыны. Бог пасылае на нашу зямлю ласку паклікання, але вельмі часта боязь перашкаджае хлопцам і дзяўчатам адказаць згодай на Божы покліч. Шчасце народа залежыць ад таго, наколькі людзі, пакліканыя маліцца за яго, будуць выконваць сваё пакліканне. І кожны малады чалавек, які чуе ў сабе покліч на Божую службу, павінен усведамляць: вырашаецца не толькі ягоны асабісты лёс, але і лёс усяго народа.

Нельга не згадзіцца з гэтымі трохі неспадзяванымі словамі айца Пахомія. Так, хтосьці павінен маліцца за гэтую збалелую зямлю. Хтосьці павінен маліцца за тых, хто даўно развучыўся гэта рабіць. Хтосьці павінен маліцца за тых, хто ў сваім бяспамяцтве жыве так, быццам толькі з яго і пачалося жыццё на гэтай зямлі.

...Спякотнае летняе сонца хілілася на захад, малюючы старажытны Полацк вечаровымі фарбамі. Пілігрымка грэка-католікаў, прысвечаная ўшанаванню памяці пяці полацкіх мучанікаў, скончылася. Няхай жа памяць пра гэтых сціплых манахаў базыльянаў заўсёды жыве ў нашым народзе.

*Ірэна Задарожная*

## НАШЫ АПЕКУНЫ






Ягонае жыццё прыпадае на позняе Сярэднявечча. Паходзіў ён з паўднёвай Францыі. Рана застаўся сіратой. Раздаўшы ўсё, што меў, бедным, пайшоў пілігрымам у Рым. У Вечным Горадзе ён вельмі ахвярна даглядаў хворых і аздараўляў іх знакам крыжа. У Рыме ў гэты час была нейкая эпідэмія, таму працы яму хапіла. Праз тры гады Рох выбраўся ў дарогу дахаты, ды ў часе яе і сам цяжка захварэў, але быў цудоўным чынам аздароўлены. На радзіму ён вярнуўся праз два гады і тут яго абвінавацілі ў шпіянажы ды кінулі ў вязніцу, дзе Рох і памёр у 1327 годзе. Пасля ягонай смерці на сцяне засталіся цудоўным чынам напісаныя словы, якія сведчылі пра ягоную невінаватасць, а таксама пра тое, што Пан Бог даручае яму апекавацца людзьмі, што хварэюць на заразныя хваробы.

Святы Рох з'яўляецца апекуном сталяроў, жывёлаводаў, усіх хворых, а таксама хатняй жывёлы. Да яго апекі прыбягаюць у часе якой-небудзь эпідэміі.

На абразах ён зазвычай паказаны як пілігрым з падарожнаю кайстраю. Часта на абразах прысутнічае сабака з боханам хлеба ў зубах, які карміў яго, альбо хворыя на праказу, якіх ён аздараўляў.

Дзень святога Роха — 16 жніўня. У народнай традыцыі гэты дзень лічыўся пачаткам восені, таму людзі стараліся абмалаціць да гэтага дня ўсё збожжа, каб яно добра захавалася зімой і каб яго хапіла да новага ўраджаю. У гэты дзень вернікі моляцца за ўсіх хворых, а таксама просяць святога Роха ахоўваць хатнюю жывёлу.

### Малітва

*Божа, Цябе праслаўляюць усе святыя. Ты выслухоўваеш іх просьбы і прыносіш палёгку ўсім, хто прыбягае да апекі Тваіх абраннікаў. Учыні так, каб тыя, хто ўшаноўвае святога Роха, праз яго заступніцтва былі вызваленыя ад цяжкіх ды заразных хваробаў, якія святы Рох і сам цярпеў на сваім целе. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.*

## Разам з Марыськай



*Сябры! Разам з вамі мы распачынаем маліцца другую частку ружанца — Балесную. Як і дамаўляліся, пасля пяці таямніцаў Радаснай часткі, мы падвядзем вынікі конкурсу. Але паколькі наш часопіс часам спазняецца ў вашыя дамы, а вы да таго ж яшчэ былі на летніх канікулах, то першыя вынікі нашага конкурсу будуць надрукаваныя ў наступным нумары "Ave Maria".*

*Цяпер жа запрашаем усіх дзяцей разам маліцца наш супольны ружанец. Дасылайце нам свае лісты з адказамі, малюнкамі, цікавымі паведамленнямі. Чакаем!*

*Марыська.*




### Частка другая — Балесная
### Таямніца першая
## Малітва ў Садзе Аліўным



***Пытанні для разважанняў***

1. Чаму гэты Сад называецца Аліўным?
2. Якіх трох сваіх вучняў Пан Езус узяў у тую ноч з сабою на малітву?
3. Што рабілі Яго вучні ў той час, калі Езус маліўся?
4. Каму належаць гэтыя словы: "Айцец мой! Калі не можа гэты келіх абмінуць мяне, каб мне не піць з яго, няхай станецца воля Твая"?
5. Як знешне праявілася вялікая туга Езуса?

*У Садзе Аліўным Пан Езус быў вельмі адзінокі, Яму было вельмі страшна, але ў Яго хапіла сілы сказаць: "Ойча! Не мая, але Твая воля няхай станецца". Маці Божая! Мы ўсе слабыя. Дапамагай нам перамагаць нашыя слабасці і суцяшай усе самотныя душы. Каб кожны з нас у хвіліну цяжкіх выпрабаванняў змог сказаць: "Ойча! Няхай будзе воля Твая!"*

***Ойча наш...***
***10 Вітай, Марыя...***
***Хвала Айцу...***

*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі, захавай нас ад агню пякельнага, правядзі ўсе душы да неба і асабліва памажы тым, каму найбольш патрэбна Твая міласэрнасць.*





## З НАШАЙ ПОШТЫ



### НЯХАЙ ПАШЫРАЕ СВАЕ МЕЖЫ "ХАТНІ КАСЦЁЛ"!

*Хвала Езусу Хрысту!*

*Прызнацца, вагалася, ці напісаць ліст у рэдакцыю. Рэч у тым, што мяне вельмі ўсхвалявала гутарка з кс.Збігневам Боярам у 1-2 нумары "Ave Maria". Праблемы сям'і хвалююць многіх людзей, вельмі блізкія яны і мне.*

*Наша сям'я трымаецца вось ужо васемнаццаць гадоў, выхоўваем сына (15 год) і дачку (11 год). У духу каталіцкае веры наша сям'я жыве прыблізна пяцьшэсць гадоў, а раней жыццё з Богам было даволі ўмоўным. У Пастаўскай парафіі наша сям'я адна з першых увайшла ў "Кола хатняга Касцёла", сын служыць міністрантам, дачка ахвотна наведвае ўрокі рэлігіі.*

*З дзяцінства я маю кволае здароўе, і гэта ў маім жыцці заўсёды было "стоп-сігналам" і ў адносінах з іншымі людзьмі, і ў пошуках ісціны. Ды ўсё ж пошук праўды жыцця адкрыў мне Бога, якога я раней не ведала: Сапраўднага, Жывога, Таго, які любіць сваіх дзяцей і жадае, каб мы заўсёды былі з Ім, Таго, які чакае нас пасля нашых блуканняў, Міласэрнага, які даў нам усю неабходную ісціну ў Евангеліі.*

*Перажыла наша сям'я і даволі складаны перыяд крызісу. Не буду яго апісваць падрабязна — нічога ў гэтым цікавага няма. Скажу толькі, што ў той час я адчувала сябе вельмі адзінокаю. Але цяпер я разумею, што і тады я не была адна — са мною быў Бог. Было шмат малітвы, былі споведзі, быў роздум над тым, што адбываецца, але адначасна і была надзея. Напэўна, калі б я не ўдзельнічала ўжо тады ў руху "Хатняга Касцёла", мне было б нашмат цяжэй перамагчы той крызіс. Але побач былі сябры, некаторыя з якіх у свой час перажылі падобныя праблемы. Гэта надавала сілы. І тады да мяне прыйшло разуменне: не трэба заспакойвацца, што Бог увайшоў у маё жыццё, але трэба, каб Ён поўнасцю ўвайшоў і ў жыццё майго мужа, маёй сям'і... Гэтае разуменне ўзмацніла мае малітвы і прыбавіла мне сіл. Дзякуй Богу, той крызіс мы перажылі.*

*Але цяпер мяне вельмі хвалююць пытанні выхавання дзяцей, асабліва сына. Часам я проста губляюся перад моцным уплывам свету на яго. І тады я думаю не толькі пра майго сына, але і пра яго равеснікаў. На жаль, часам б'ешся як аб сцяну, калі заводзіш размову пра перавагу духоўнага над матэрыяльным. І ўсё ж надзея не пакідае мяне хоць бы таму, што іншы раз мы размаўляем з ім пра гэта па некалькі гадзін запар. Вельмі спадзяюся, што наступіць пералом, і сын зразумее, што поўнае шчасце можа мець толькі той чалавек, які не аддае ўсе свае сілы на паляпшэнне свайго дабрабыту, але клапоціцца яшчэ і аб багацці сваёй душы. Думаю, што ў гэтым мне зноў жа дапаможа "Хатні Касцёл", які за гэты час стаў для нас добрай, дружнай сям'ёй. Вельмі хочацца, каб і ўсе людзі знаходзілі разуменне іншых. Таму: няхай жыве і пашырае межы ў парафіях "Хатні Касцёл", які дапамагае людзям знаходзіць сваёй шчасце!*

**В.М.**
*г. Паставы*

### ДАПАМАГЛІ ВЕРНІКІ

*Хочам падзяліцца вялікай радасцю і шчасцем, якія перапаўняюць нашу сям'ю. Сталася так, што і радасць, і шчасце прыйшлі да нас пасля сур'ёзнага жыццёвага выпрабавання. Захварэла жонка. Гэта прынесла нам шмат трывогі і клопату. Але мы, сям'я веруючых, працягвалі жыць, спадзеючыся на Божую дабрыню. Ды неўзабаве нас чакала яшчэ адно выпрабаванне – абвалілася страха дома. Гэта прынесла столькі непрыемнасцяў, што мы разгубіліся. Але менавіта ў гэты час да нас прыйшлі добрыя людзі, якія прапанавалі сваю падтрымку. Гэта былі вернікі касцёла Беззаганнага Зачацця Панны Марыі. Усе мы адразу акрыялі, бо адчулі, што мы не адны ў сваёй бядзе. Нас запрасілі прыходзіць у касцёл. Самі мы праваслаўныя, да гэтага часу пра касцёл ведалі зусім мала. Але прыйшлі. І адразу адчулі, што мы тут зусім не чужыя. І духавенства, і простыя вернікі паставіліся да нас так, нібы ведалі нас шмат гадоў. З цягам часу нашы беды неяк неўпрыкмет зменшыліся. Мы перакананыя, што здарылася гэта, дзякуючы добрым, шчырым людзям, для якіх хрысціянства – не проста прыгожае слова, але стан жыцця. Як усё ж добра, што ёсць на свеце такія людзі! Дзякуй ім за іхнюю дабрыню і сардэчнасць, за тое, што яны самі шчыра, аддана вераць у Бога і паказваюць гэты светлы шлях іншым.*

***Сям'я Бурых,***
*г. Бабруйск*

### ДЗЕ ЗНАЙСЦІ СВЯТЫХ СВЯТАРОЎ?

*У сучасным свеце ўсё часцей гучыць такое пытанне. У друку таксама з'яўляюцца артыкулы на гэту тэму. Сучасныя людзі шукаюць святых святароў таму, што сённяшні свет патрабуе іх больш, чым калі-небудзь. Хочацца, каб іх было шмат. А святароў тым часам увогуле становіцца штораз менш. Для адных гэта штуршок да роздуму, для іншых - тэма бясконцых папрокаў, падазрэнняў, абмоў і асуджэння.*

*Таму карысна бліжэй падысці да гэтага пытання і задумацца над ім: ці сапраўды такія абвінавачванні ў адрас святароў з'яўляюцца справядлівымі, ад каго яны зыходзяць, і ці знаёмы тыя людзі з жыццём святароў. Ці мы, вернікі, не заслугоўваем, выпадкам, большых папрокаў? Бо менавіта ад нас залежыць, колькі і якіх мы маем святароў, і ці ёсць пакліканні.*

*Маці Божая вельмі просіць маліцца за святароў. Калі іх не будзе, не будзе Касцёла, не будзе Св. Імшы, споведзі і Хрыста ў табэрнакулюме. На нас ляжыць адказнасць за тое, што меў на ўвазе Хрыстус, кажучы: «Ударыць у пастыра — і разлятуцца авечкі».*

*Святыя святары ёсць. Кожны прэзбітар у той час, калі атрымлівае святарскае пасвячэнне, калі ляжыць крыжам на падлозе і калі яго далоні біскуп*

## З НАШАЙ ПОШТЫ

*намашчвае святым алеем, становіцца святым. Без сумнення, яны ўсе выбралі гэтую дарогу, каб служыць Пану Богу і ўсім без выключэння людзям, бедным і багатым, дзецям, маладым і старым. Несумненна, яны таксама маліліся аб гэтым пакліканні, і душа іх перапоўнілася жаданнем і надзеяй, што прынясуць яны хвалу Пану Богу.*

*Ёсць шмат святых святароў, а распазнаць іх можна па тым, як яны моляцца на ружанцы, і па тым, што не маюць часу для сябе. Гэта святары глыбокай веры і малітвы, якія не ведаюць адпачынку. Адзін святар сказаў: «Калі ў гэты дзень не падаю ад стомленасці, то такі дзень лічу страчаным».*

*Мы чакаем ад святароў святасці і патрабуем, каб яны ўсе былі святымі, ахвярна і цярпліва працавалі, каб усміхаліся, нягледзячы ні на што. Пан Бог сапраўды адарыў іх вялікаю ласкаю, але яшчэ і вялікай адказнасцю. Кожны іх легкаважны падыход да праблем чалавечага жыцця і асабліва да праблем духоўных, можа мець вялізныя і згубныя вынікі. У кожным выпадку яны павінны быць прыкладам не толькі ў абвяшчэнні Божага Слова, але і ў яго рэалізацыі. Святар вядзе нас да Хрыста. Яго жыццё — гэта жыццё адрачэнняў, ахвяры, служэння і пастаяннай працы над сабой.*

*Нельга нам забываць пра тое, што святары з'яўляюцца людзьмі, якія цярпяць пастаянныя выпрабаванні і спакусы. Яны таксама чакаюць нашай дапамогі, а не толькі нашых прэтэнзій. Шмат хто з іх гіне і не заўсёды па ўласнай віне. Ёсць выпадкі, калі першы кілішак, паднесены святару парафіянамі, можа давесці да стану залежнасці ад алкаголю. Часта маладыя святары, зусім несвядома, навязваючы таварыскія кантакты з моладдзю, губляюць аўтарытэт. Адносіны да святара як да прыяцеля ўваходзяць цяпер у моду. Адсутнасць дыстанцыі абмяжоўвае і знішчае магчымасць духоўнага кіраўніцтва.*

*Штораз больш святароў можна ўбачыць у цывільным адзенні. Часцей за ўсё яны робяць гэта дзеля лягчэйшага кантакту з людзьмі. Затое сутана ахоўвае ад спакусаў і дапамагае еднасці з Панам Богам. З'яўляецца яна таксама сведчаннем святарскага сану і выклікае належную павагу ў тых, хто святара сустракае.*

*Закончыць гэтае сваё разважанне хацелася б пытаннем, якое кожны павінен задаць сабе сам: ці ёсць хтосьці з нас, людзей, без віны, ці ўсе мы знаходзімся на адпаведнай дарозе, і ці такімі ж былі б нашыя паводзіны ў прысутнасці Хрыста, калі б стаў Ён сярод нас, як сярод апосталаў у вячэрніку?*

***Зоф'я Сордыль***

**На 1-й і 2-й старонках вокладкі** - урачыстасць у Будславе, прысвечаная каранацыі абраза Маці Божай Будслаўскай;
**на 3-й** - рэкансэкрацыя касцёла Унебаўзяцця НМП у Пружанах;
**на 4-й** - перэгрынацыя фігуры Маці Божай Фацімскай па парафіях Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.
**Фотаздымкі** А.Клешчука, З.Сордыль, А.Лукашэвіча.


**«Ave Maria»**
жнівень-верасень № 8-9 (46-47) 1998
Заснавальнік –
Мінска-Магілёўская архідыяцэзія
Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце
Рэспублікі Беларусь па друку.
Рэгістрацыйны № 225.
Рэдакцыйная рада
Надрукавана ў друкарні "НЭСІ",
220141 г.Мінск, вул.Жодзінская, 18.
Зак. 8. Наклад 8 300 экз.
Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9,
тэл./факс: (0172) 26-90-92
Архікатэдральны касцёл
Імя Найсвяцейшай Марыі Панны
Часопіс выдаецца
на ахвяраванні вернікаў


### У НУМАРЫ








*Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Марыі Панны ў Пружанах.*
***На здымках злева –*** *касцёл ў 40-я гг. і да свайго аднаўлення;* ***унізе –*** *рэкансэкрацыя святыні 14.08.1998г.*






